

СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ

# ФРЭСКІ

**Абразкі і апавяданні**



Мінск
«Мастацкая літаратура»
2004

# КАМЯНІЦЫ І ТАЯМНІЦЫ

**Абразкі**





# ГІСТОРЫЮ ТРЭБА ВЕДАЦЬ



Ішоў я каля школы і пачуў, як адзін хлопчык казаў другому: «Ведаеш, якая адбылася са мною гісторыя?» Да іх падбег аднакласнік і спытаў: «А вы гісторыю вывучылі?» Бачу, зусім пра розныя гісторыі гавораць дзеці. Першая – нейкае здарэнне з асабістага жыцця, другая – навука.

На свеце шмат розных навук. Адны вывучаюць жывёл і раслін, другія – прыродныя з'явы, трэція – сусвет, далёкія планеты. Ды ёсць навука, без якой немагчыма ўявіць наша жыццё, наша мінулае, далёкае і блізкае. Гэта – гісторыя. Менавіта яна можа адказаць на шматлікія пытанні: дзе, калі і што было? Хто былі нашы продкі, славутыя і невядомыя? Што адбывалася да таго, як з'явіліся на свет мы з вамі? Гэту гісторыю трэба ведаць.

Першы чалавек на тэрыторыі Беларусі з'явіўся ў далёкія-далёкія часы. Ён спярша навучыўся трымаць у руцэ кій, рабіць інструменты і зброю з каменя. Зямля, пакрытая дрымучымі лясамі, давала яму прытулак і

ежу. Пасля чалавек навучыўся здабываць метал. Стала зручней апрацоўваць дрэва, скуру, косці. Жылі нашы далёкія продкі ў лясных вёсачках, палявалі на звяроў і аралі зямлю на невялікіх лапіках, адваяваных ад лесу.

Аб гісторыі продкаў пазнейшага часу, аб узнікненні першых беларускіх гарадоў паведамляюць старажытныя пісьмовыя крыніцы – летапісы. Але, на жаль, летапісы не заўсёды могуць расказаць, як жылі людзі ў гэтых гарадах, чым займаліся, з кім гандлявалі. І тут на дапамогу прыходзіць другая гістарычная навука – археалогія. Людзі спрадвеку пакідалі аб сабе памяць: рэшткі паселішчаў, хатнія рэчы, абутак, зброю. Археолагі праводзяць раскопкі і вызваляюць з нетраў зямлі ўсё, што мае адносіны да чалавека. Гэта таксама гісторыя.

Не толькі навукоўцы, але і вы, сябры, можаце ўнесці ўклад у гэту цікавую навуку. Ці ведаеце, напрыклад, гісторыю сваёй сям'і: дзе і кім працуюць вашы бацькі, бабулі, дзядулі? А кім былі, што рабілі, як жылі бацькі вашых бабуль і дзядуляў? Пэўна, не ўсё ведаеце. А гэта ж гісторыя вашай сям'і, яе трэба берагчы і перадаваць з пакалення ў пакаленне. Калі-небудзь яна стане неацэнным скарбам, па якім нашчадкі дазнаюцца пра нас з вамі, пра час, у якім мы жылі.

Гісторыя не робіцца асобнымі людзьмі. Галоўны яе герой – гэта мы з вамі, увесь наш народ, чалавецтва, якое з кожным днём ідзе ўсё далей і далей у будучыню. А каб стварыць гэту будучыню, трэба добра ведаць мінулае.





# ЯК ЖЫЛІ ПЕРШАБЫТНЫЯ ЛЮДЗІ



Самыя старажытныя паселішчы нашых продкаў знойдзены ўсяго ў двух месцах: у Афрыцы і ў Якуціі, дзе жыццё існавала ўжо некалькі мільёнаў год назад. Адсюль першабытныя людзі і пачалі рассяляцца па ўсім свеце. Каля трыццаці – сарака тысяч гадоў назад з'явіліся яны і на тэрыторыі Беларусі. З таго часу чалавек ніколі ўжо не пакідаў гэты край.

Як жылі першабытныя людзі? Іхняе існаванне залежала ад многіх абставін. Яны не ўмелі апрацоўваць зямлю, не мелі сваёй жывёлы. Нават вогнішча часцей за ўсё было выпадковым падарункам – успыхвала ад маланкі. Але ні захоўваць яго, ні падтрымліваць доўга людзі не маглі. Жылі толькі з палявання, збіралі ядомыя расліны.

На адным месцы таксама не затрымліваліся. Ішлі ўслед за статкам жывёл, калі трэба было, забівалі яе і елі. Відаць, таму і не мелі сталага месцажыхарства, бо без ежы не пражывеш. Прыстанішчы рабілі дзе давядзецца: у тундры, у лесе, а калі пашанцуе – у пячоры.

Мінулі тысячагоддзі. Чалавек шмат чаго засвоіў, набыў вопыт. З вострага каменя навучыўся рабіць прылады працы. Ды не проста рабіў, а надаваў ім патрэбныя формы: тонкімі – калоў, круглымі – рэзаў, пляскатымі – скроб і цяслярыў. У спалучэнні з драўляным кіем ці косткаю камень станавіўся ўжо сякерай, дзідай, а то і матыкаю. Апрача таго, чалавек навучыўся здабываць і ахоўваць агонь.

З новымі прыладамі працы ды з вогнішчам першабытныя людзі сталі менш залежаць ад прыроды. Яны збіраліся ў гурты і палявалі на вялікіх жывёл – маманта, насарога, аленя. Часам цэлыя статкі заганялі ў расколіны скал ці спецыяльна змайстраваныя пасткі. Дзякуючы гэтаму мелі мяса, цёплыя шкуры для адзення і жытла. Сумеснае жыццё, паляванне аб'ядноўвалі людзей. Яны пачалі жыць не першабытным статкам, а першабытнай людской абшчынаю. Галоўнае месца ў такой абшчыне надавалася жанчыне-маці, якая даглядала дзяцей і вогнішча. Пазней гэтая роля перайшла да бацькі, здабытчыка ежы.

З часам людзі навучыліся рабіць больш-менш трывалае жытло – паўзямлянкі. Над імі дабудоўваўся шацёр з дрэва або з костак буйных жывёл, якія зверху пакрываліся шкурамі. А яшчэ пазней чалавек пачаў займацца земляробствам, жывёлагадоўляй. Ніхто дакладна не ведае, як гэта атрымалася. Хутчэй за ўсё – выпадкова. Магчыма, чалавек заўважыў, як аднойчы прараслі выкінутыя ім на сметнік зярняткі, і вырашыў зрабіць гэтак яшчэ раз. Толькі зярнятак кінуў болей. Тое самае і з жывёлай. Раней забівалася ўсё, што бегала і хадзіла ў лесе, у полі. Але магло здарыцца, што ў той час, калі мяса хапала, у пастку трапіла

жывёла. Яе рашылі не забіваць, а прывесці ў паселішча. Мо гэта якраз і была тая першая карова, якую прыручылі, навучыліся даіць. Калі ж наступалі галодныя часы, мяса было пад бокам. Авалодаў чалавек і іншымі прамудрасцямі: навучыўся ляпіць гаршкі, лавіць рыбу, вэндзіць мяса.

У тыя далёкія часы з'явілася і першае мастацтва. На скалах і ў пячорах людзі малявалі сцэны са свайго жыцця, выразалі з косці выявы звяроў і птушак, а часам – і чалавека. Праз малюнкі, каменныя і касцяныя фігуркі людзі шукалі пагадненне з непадуладнымі сіламі прыроды, пакланяліся ім, прасілі дапамогі і заступніцтва.

Вось так на працягу тысячагоддзяў жыў першабытны чалавек. Перамагаючы холад і голад, нястачу і небяспеку, ён праявіў незвычайнае вынаходніцтва ў барацьбе за сваё існаванне. Многае з таго, чым мы з вамі карыстаемся, прыдумана нашымі продкамі: вопратка і дах над галавою, посуд і рыбацкае начынне, плуг і барана, печ і жаронцы... Сёння мы здзіўляемся палётам касмічных ракет, але каб не было таго далёкага продка, які вынайшаў звычайнае кола, не ляталі б у космас і ракеты.



## АДКУЛЬ ПАЙШЛІ БЕЛАРУСЫ



Пра тое, адкуль пайшлі беларусы, ёсць старадаўняе паданне. Жыў на свеце чалавек па прозвішчу Бай. Была ў яго вялікая сям'я. Надышоў час Баю паміраць. Сабраў ён сваіх сыноў і падзяліў між імі маёмасць. Толькі аднаго сына запамятаваў, бо той якраз быў на паляванні са сваімі любімымі сабакамі. Звалі сына Белаполем.

Пасля смерці бацькі вярнуўся Белаполь з палявання. Браты яму і кажуць: «Бацька аддаў нам усю маёмасць, а табе пакінуў сабак ды наказаў, каб ты пусціў іх на волю. Аднаго – у правы бок, другога – у левы. Колькі зямлі аббягуць за дзень, столькі і будзе тваёй».

Пайшоў Белаполь і злавіў дзвюх птушак: адну, што прыляцела з паўднёвага мора, другую – з мора паўночнага. Выпусціў птушак у розныя бакі, а наўздагон пусціў сабак. Тыя з такім імпэтам кінуліся за птушкамі, што аж пыл закурэў. І па сённяшні дзень іх няма. А па іх слядах дзве рэчкі пацяклі: у адзін бок – Дзвіна, у другі – Днепр.

Вось на гэтых абшарах Белаполь і пасяліўся. Ад розных жонак у Белаполя пайшлі розныя плямёны пад найменнем беларусы. Яны і дагэтуль тут ходзяць, зямельку аруць ды жыта сеюць.

У кожным паданні ёсць зярнятка праўды. Так, беларусы склаліся ў адзіны народ з розных плямёнаў. Больш за паўтары тысячы гадоў назад на абшарах нашай краіны рассяліліся славяне: крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Побач з імі жылі старажытныя балцкія плямёны – продкі сучасных літоўцаў і латышоў. Але славянаў было больш. Яны мелі высокую культуру і

таму здолелі аб'яднаць вакол сябе розныя плямёны. З цягам часу асобныя княствы – Полацкае, Тураўскае, Гарадзенскае, Менскае – аб'ядналіся ў адну буйную дзяржаву, якую назвалі Вялікім княствам Літоўскім. Літоўскім таму, што цэнтрам дзяржавы стаў горад Навагрaдак – сталіца тагачаснай Літвы, і ўсе вялікія князі паходзілі з гэтых зямель. Межы дзяржавы, як і ў паданні, раскінуліся ад Балтыйскага мора да Чорнага. І называлі сябе нашы продкі ў тыя часы ліцвінамі.

Беларусамі ж мы назваліся не самі. Імя нам далі суседзі. Яшчэ ў даўнія часы заходнееўрапейскія падарожнікі, складальнікі летапісаў і хронік пачалі называць нашу краіну Белай Руссю. Чаму так здарылася, дакладна ніхто не ведае. Адны кажуць, што белая – ад колеру льняной вопраткі і светлых валасоў. Іншыя сцвярджаюць, што белая – значыць вольная. Сапраўды, белы колер ва ўсе часы быў сімвалам свабоды духу, незалежнасці, высокіх хрысціянскіх памкненняў. Белы – колер Хрыста.

Беларуская дзяржава – ад часоў Полацкага княства і да заваёвы Вялікага княства Літоўскага Масквою – праіснавала амаль тысячу гадоў. Таму еўрапейцы, якія ўсю Усходнюю Еўропу ведалі як Русь, нашы землі з асаблівай павагаю называлі Белай Руссю.

Спрыяла гэтаму і наша тагачасная сімволіка. Белы сцяг з чырвоным пасам – сімвал незалежнасці, якую даводзілася бараніць і адстойваць цаною народнай крыві.

Сёння Беларусь займае межы значна меншыя, чым у часы Белаполя, калі беларусы толькі пачалі сяліцца тут. Але ўсе мы памятаем наша супольнае паходжанне і павінны шанаваць нашу багатую гісторыю. Гэта – наша вечная спадчына.



## АД ДЫРХЕМА ДА РУБЛЯ



Купляючы што-небудзь у магазіне ці ў газетным кіёску, людзі цікавяцца: колькі гэта каштуе? Мы разлічваемся спецыяльнымі паперкамі. А ў некаторых краінах карыстаюцца і манетамі. Гэта і ёсць грошы. Да іх мы прызвычаіліся, без іх не можам абысціся. Ды мала хто ведае, адкуль узяліся грошы.

Першыя манеты з'явіліся ў Грэцыі і Рыме яшчэ да нашай эры. А да гэтага ў розных краінах людзі, гандлюючы, разлічваліся па-рознаму: жалезнымі прутамі, марскімі ракавінамі, зліткамі солі, шкурамі жывёлы і нават адмыслова апрацаванымі каменьчыкамі. У нашых далёкіх продкаў-беларусаў грошай таксама не было. Проста абменьвалі адны рэчы на другія. Жывёлу, футры, мёд, воск мянялі на ўпрыгожанні з Візантыі, зброю з Заходняй Еўропы. Пазней, калі пачалі гандляваць між сабою арабы і скандынавы, наша зямля апынулася якраз пасярэдзіне. Вось тады і з'явіліся на Беларусі першыя грошы ў выглядзе сярэбраных манет. Яны выраблялiся на арабскім Усходзе і называ-

ліся дырхемамі. Пад Полацкам школьнікі знайшлі сапраўдны скарб. Ды які! Ён важыў амаль 20 кілаграмаў. У ім было каля васьмі тысяч арабскіх дырхемаў.

Срэбра, якое здабывалі на Усходзе, з цягам часу скончылася. Разам з ім перасталі завозіць і дырхемы. На змену прыйшлі новыя грошы — дынары і пфенінгі. А з канца XIII стагоддзя на Беларусі пачала ўзнікаць уласная грашова-вагавая сістэма. У яе аснову была пакладзена дробная манета — «пражскі грош», які вырабляўся з чыстага срэбра. Адпаведная колькасць грошай называлася нага́тай і капо́й. Пазней у Еўропе з'явілася новая манета — талер, якая набыла надзвычай шырокае распаўсюджанне. Каб не застацца ўбаку ад агульнаеўрапейскага рынку, на Беларусі пачалі чаканіць свой уласны талер. Галоўны манетны двор знаходзіўся ў Вільні.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай, у якую ўваходзілі ўкраінцы, палякі, літоўцы і беларусы, нашы землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Для таго каб хутчэй падпарадкаваць беларусаў, маскоўскія валадары паспрабавалі ўвесці на іх землях свае грошы. Але спачатку з гэтага нічога не атрымалася. Тады выдалі загад: жыхары Беларусі павінны здаць усе наяўныя заходнееўрапейскія і ўласнабеларускія грошы. З таго часу і пачалі выкарыстоўваць расійскі сярэбраны рубель, медныя капейкі, а таксама папяровыя грошы. Паспрабавалі выпусціць і залатую манету. Аднак золата, як і срэбра, на рынку доўга не трымалася. Паступова каштоўныя манеты замяняліся на папяровыя грошы.

Навука, якая вывучае гісторыю грошай, называецца нумізматыкай. Сярод розных калекцыянераў нумізматы, бадай, самы вялікі атрад. І гэта не дзіва. Трыма-

ючы ў руках старадаўнюю манету, мы быццам пераносімся на многія стагоддзі ў глыбіню гісторыі. Па ёй можна прасачыць, як змяняліся князі і цары, як звужаліся або пашыраліся межы дзяржаў, можна ўявіць, як па далёкіх і небяспечных дарогах ішлі купецкія караваны, якія перашкоды яны сустракалі на сваім шляху. Таму заўсёды прыемна і цікава сустрэцца з людзьмі, якія збіраюць манеты. Для іх захапленне нумізматыкай — гэта не толькі гісторыя мінулага, але і сённяшні дзень, успаміны аб далёкіх і блізкіх вандроўках, аб тых краінах, дзе пабывалі самі, дзе пабывалі іх сябры.

Вось такая яна, гісторыя нашых грошай.





# КАМЯНІЦЫ І ТАЯМНІЦЫ



аўным-даўно, калі не было ні дарог, ні чыгункі, вандравалі нашы продкі пеша па ледзь бачных сцяжынах ці на лодках і плытах па рэках і морах. І як жа здзіўляліся вандроўнікі, калі раптам адкрываліся іх позіркам дзіўныя гарады і замкі, абнесеныя высокімі сценамі. А ў тыя далёкія часы ўмацаваныя замкі былі ў кожным старажытным горадзе. Напачатку іх будавалі толькі з дрэва. А потым, калі наша краіна аб'ядналася ў вялікую і моцную дзяржаву – Вялікае княства Літоўскае, замкі пачалі будаваць з каменя і цэглы. І стаялі яны моўчкі, ганарлівыя і загадкавыя. Простыя людзі ў замках не жылі. Гэта было жытло князя і дружыны, багатых баяраў. Тут захоўвалася гарадская казна, ладзіліся суды і выконваліся прысуды. А яшчэ за моцнымі сценамі хавалася зброя, каб абараняцца ад варожых нападаў. Бо ў выпадку пагрозы толькі замак мог абараніць усіх жыхароў – і старога і малога.

Былі ў гісторыі нашай краіны часы, калі ніводнага года не абыходзілася без войнаў. То князі не маглі падзяліць між сабою землі і ўладу, то ворагі нападалі на нас.

Першыя каменныя замкі на Беларусі былі пабудаваны ў Лідзе, Крэве, Наваградку, Медніках, Троках. Яны ўтваралі ланцуг, які спыняў напады крыжакоў. А рабіць гэта было няпроста, бо заходнееўрапейскія рыцары мелі вялікі вопыт войнаў. Яны везлі з сабою камнекідальныя машыны, адмысловыя прыстасаванні для прабівання сцен, ведалі, як карыстацца «грэчаскім агнём», перакідаючы яго цераз высокія муры. І ўсё ж большасць нападаў замкі вытрымлівалі, бо кіравалі абаронаю славутыя ваяры, вялікія князі: Міндоўг, Гедымін, Кейстут, Вітаўт.

Кожны замак меў свае асаблівасці. Лідскі і Крэўскі – амаль блізняты, мелі па дзве кутнія вежы і пабудаваны былі ў адзін час. У Наваградскага замка ў розныя часы было да сямі вежаў. Прычым самая знакамітая – Шчытоўка – мела ў вышыню 25 метраў, а таўшчыня сцен была амаль тры метры. Ніякія гарматы не маглі прабіць такія сцены. За сценамі Наваградскага замка знаходзілася царква, захоўваліся дзяржаўныя «кляйноты» – сцяг, герб, пячатка, грошы. Сцены яго і сёння памятаюць Міндоўга, першага князя і караля Вялікага княства Літоўскага, мужнага і адважнага гарадзенскага кашталяна Давыда, які пад замкавымі мурамі сек крыжакоў.

Зусім іншая гісторыя ў Крэўскага замка. Аднойчы тут адбылося жахлівае злачынства. Князь Ягайла, якому карцела быць адзінаўладным гаспадаром, загадаў забіць свайго дзядзьку Кейстута, а потым у тую ж цямніцу пасадзіў і свайго стрыечнага брата – князя Вітаўта. Ды Вітаўт збег, пераапрануўшыся ў адзенне жончынай служкі. Пазней князі памірыліся, каб разам разбіць крыжакоў на славутым полі пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Міналі стагоддзі, з’явілася новая зброя, мяняліся і замкі. Яны станавіліся мацнейшымі, больш прыгожымі. У XVI стагоддзі былі пабудаваны цудоўныя замкі ў Міры, Нясвіжы, Гальшанах, Быхаве. Гальшанскі замак, збудаваны магнатамі роду Сапегаў, лічыўся самым прыгожым. Казалі, падобны да яго ёсць толькі ў Францыі. Мірскі замак, збудаваны князем Юрыем Ільінічам, меў пяць стромкіх вежаў і вялікі прыгожы палац. Замак у Быхаве – мацнейшая фартэцыя, якая падчас вайны з Масквою вытрымлівала аблогу да паўгода. Але самым багатым і вытанчаным замкам быў Радзівілаўскі ў Нясвіжы. Яго будавалі па праекту італьянскага архітэктара. Князі і магнаты Радзівілы лічыліся вельмі заможнымі людзьмі не толькі на Беларусі. Іх скарбы пераўзыходзілі нават каралеўскія. У Нясвіжскім замку была выдатнейшая карцінная галерэя, агромністы збор кніг і старажытных рукапісаў, скарбніца, у якой захоўваліся вырабы з золата, срэбра і каштоўных камянёў, прывезеных Радзівіламі з усіх канцоў свету. Была тут і «людвісарня» – майстэрня па вырабу гармат, і збраёўня, дзе выраблялiся стрэльбы, шаблі, мячы, адліваліся кулі і ядры. У дзяржаве Радзівілы займалі высокія і адказныя пасады. Яны былі гетманамі, канцлерамі, скарбнікамі, епіскапамі. Барбара Радзівіл нават стала жонкаю караля.

Не ўсе замкі захаваліся да нашых дзён. Яны, як сапраўдныя ваяры-волаты, да апошняга змагаліся, абараняючы краіну і свой народ. Толькі новай, магутнай зброі супрацьстаяць ужо не маглі. А некаторыя, як Гальшанскі замак, па сваёй недасведчанасці людзі разбіралі на цэглу. І тым не менш, вандруючы па Беларусі, нельга не здзіўляцца прыгажосці і велічнасці

гэтых волатаў. Разбураныя часам, яны і зараз з годнасцю паглядаюць на нас праз вежавыя байніцы, быццам пытаюць: а ці здольныя мы сёння зрабіць для свайго народа тое, што некалі зрабілі яны?

## ПА ЯКІХ ЗАКОНАХ ЖЫЛІ НАШЫ ПРОДКІ



свеце існуюць самыя розныя законы. Галоўныя сярод іх не падуладны чалавеку. Гэта — законы прыроды. Сапраўды, чалавек не можа спыніць дождж ці снегапад, загадаць землятрусу не разбураць гарады, а бурам не хваляваць акіянскія прасторы. Гэтыя законы — нязменныя.

Людзі прыдумалі свае законы. Гэтыя законы штучныя, але без іх нельга абысціся. Бо ўсе людзі розныя, займаюцца рознаю справаю, па-рознаму думаюць і жывуць. Каб не ўзнікала марных спрэчак паміж імі, войнаў паміж дзяржавамі, і былі створаны законы — унутраныя і міжнародныя.

Першыя беларускія дзяржавы паўсталі ў далёкім X стагоддзі. Гэта былі Полацкая і Тураўская землі. У тыя часы ўжо існавалі пісаныя законы ў Грэцыі, Рыме і іншых паўднёвых краінах. Але яны былі далёка, і нашым продкам давялося прымаць свае законы. Гэтыя законы заснаваны на так званым «звычаёвым праве», іншымі словамі — правілах штодзённага жыцця. Напрыклад, вы і сёння ведаеце, што старэйшых трэба паважаць, трэба любіць і шанаваць сваіх бацькоў, дапамагаць ім. Проста і зразумела, ці не так? А гэта і ёсць «звычаёвае права», якое выпрацавала само жыццё. Па такому праву паважаны чалавек той, хто больш працуе, а ў старажыт-

насці – здабытчык-паляўнічы. Ён і меў у сям'і, абшчыне, племені права рашаючага голасу. Чым больш паважалі чалавека, тым больш меў ён і правоў. Зразумела, што і адказнасці – таксама.

У часы, калі на чале нашых старажытных дзяржаў стаялі князі, яны ўсталёўвалі свае законы. Але гэтыя законы князі прымалі не аднаасобна, а разам з баярамі і старэйшынамі. Акрамя таго, са старажытных часоў захаваўся агульнанародны збор – веча. У вялікіх гарадах людзі розных прафесій і featuring рознага дастатку збіраліся на галоўнай гандлёвай плошчы, каб разам прыняць закон ці важнае дзяржаўнае рашэнне. Замест галасавання рукамі – проста крычалі. Хто меў мацнейшы голас, той і перамагаў.

Законы раней не запісваліся. Дастаткова было валадару прысягнуць ці даць абяцанне – і гэтым гарантавалася выкананне права, усталяванага на вечы ці князем з баярамі. Першыя пісаныя законы мелі форму дамовы. Такія дамовы ў XIII стагоддзі палачане складалі з Рыгаю, Смаленскам і «Гоцкім берагам» – гандлярамі вострава Готланд. Раслі межы старажытнай дзяржавы, асабліва пасля ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, трэба было бараніцца ад знешніх ворагаў. Князі Міндоўт, Гедымін і іншыя заключалі дамовы з суседзямі. Унутраныя дзяржаўныя законы ўсталёўваліся прывілеямі. Гэта значыць, што вялікі князь ад свайго імя даваў дазвол або забараняў нешта рабіць. Але гэтыя прывілеі князь выдаваў часам толькі з дазволу «паноў-ра́ды» – вышэйшага дзяржаўнага савета, які выбіраўся на соймах.

У 1529 годзе на Беларусі з'явіўся адзін з першых у Еўропе збор законаў – Статут, які дапаўняўся і перавыдаваўся тройчы. У ім вызначаліся правы і абавязкі ўсіх

жыхароў Вялікага княства Літоўскага, ад вялікага князя і караля да залежнага ад пана селяніна. Асобныя артыкулы вызначалі законы аб судах, аб правах гандлю, грабяжы і зладзеях, аб нявесціным пасагу, спадчыне, аб тым, што займаць дзяржаўныя пасады мелі правы толькі грамадзяне сваёй краіны. Статут дзейнічаў на Беларусі больш за два з паловай стагоддзі, пакуль наша краіна не была падзелена паміж Нямеччынай і Расіяй.

З канца XVIII стагоддзя на Беларусі дзейнічалі законы Расійскай імперыі. Беларускія дваране – шляхта – страцілі амаль усе свае правы, а сяляне трапілі пад прыгнёт.

У новым часе з'явіліся новыя законы. Але нам трэба ганарыцца тым, што і цяпер Статут Вялікага княства Літоўскага вывучаецца ва ўсіх вышэйшых навучальных установах свету. А Беларусь сёння – вольная і незалежная краіна. Мы маем свой асноўны закон – Канстытуцыю, у якой гарантаваны нашы грамадзянскія правы і запісаны абавязкі. Калі ўсе будуць шанаваць і выконваць Канстытуцыю, то мы будзем жыць у міры і суладдзі.

## ПОЛАЦК



алі вам не даводзілася бываць у Полацку, то ўявіце сабе вялікае паселішча, што выцягнулася ўздоўж рэчышча Дзвіны. Калісьці, болей за паўтары тысячы гадоў назад, рымляне называлі гэту раку Рубон. На яе ўзбярэжжа і прыйшлі славяне, каб заснаваць тут новы горад. Паколькі гарады ставіліся, ці, як казалі раней, «рубіліся», на берагах вялікіх рэк, то кожнаму новаму

паселішчу давалі найменне той ці іншай рэчкі, якая ўпадала ў Дзвіну. Так, Віцебск стаіць сёння на Дзвіне і Віцьбе, Друя – на Дзвіне і Друйцы, а Полацк – на Дзвіне і Палацé. Ад Палаты атрымалі назву і першыя славянскія жыхары гэтых зямель — палачане.

Разам з баявымі дружынамі кіеўскага князя Алега палачане хадзілі на ладдзях і стругах нават у далёкае Міжземнае мора. Але гэта быў мірны народ. Галоўны яго занятак – апрацоўка зямлі, паляванне, выраб розных рамесных тавараў. Полацкія майстры славіліся сваімі ювелірнымі вырабамі, футрам, пянькою, скурамі.

На жаль, старажытныя кнігі (летапісы) няшмат захавалі звестак пра Полацк таго часу. І ўсё ж мы ведаем пра першага полацкага князя Рагвалода і ягоную знакамітую дачку Рагнеду. А сыны і ўнукі Рагнеды сталі пачынальнікамі многіх княжацкіх родаў, якія правілі пазней і ў Полацку, і ў Кіеве, і ў Ноўгарадзе.

Полацк тым часам рос і будаваўся. Свайго найбольшага росквіту ён дасягнуў у XI стагоддзі пры князю Усяславе. Гэта быў не проста князь, а, як казалі ў народзе,– чарадзей. Узвышаныя радкі прысвяціў яму аўтар першага паэтычнага твору часоў Кіеўскай Русі «Слова пра паход Ігаравы».

Усяслаў Чарадзей збудаваў у Полацку першую вялікую царкву – Сафію. Такія цэрквы існавалі толькі ў Канстанцінопалі, Кіеве і Ноўгарадзе. А гэта азначала, што Полацк ставіўся з імі побач, як роўны. Пры Усяславе быў збудаваны новы княжацкі замак — Вышні. Яго абнеслі магутнымі драўлянымі сценамі, глыбокім ровам. Тут знаходзіўся церам самога князя, сядзібы ягоных вояроў, заможных гандляроў, рамеснікаў. Слава аб Полацку разнеслася па ўсім свеце. Рэдка хто адваж-

ваўся ў той час пайсці на яго вайною, з ім шукалі згоды і міру.

Па смерці Усяслава надышло XII стагоддзе. Вялікае княства — Полацкая зямля — было падзелена паміж сынамі князя. Каму дастаўся Менск, каму Друцк, каму Віцебск, а старэйшаму, Барысу,— Полацк. Пры яго княжанні горад пашыраецца. Толькі некалькі гарадоў Усходняй Еўропы маглі паспрачацца з Полацкам па колькасці мураванак. Сваім росквітам горад абавязаны і славутай асветніцы Ефрасінні Полацкай.

Пазней, у XIII стагоддзі, для Полацка настали цяжкія часы. З поўначы прыйшлі драпежныя крыжакі-мечаносцы. Яны рабавалі гарады і вёскі, зводзілі людзей у палон. Супраць крыжацкай навалы аб'ядналіся многія славянскія і балтыйскія народы. Тады ж палачанам давялося змагацца і з мангола-татарамі, якія напалі на рускія княствы.

Багатая і слаўная гісторыя ў старажытнага Полацка. Якія толькі віхуры не праносіліся над ім! Але горад выстаяў. І сёння цешаць вока шырокія вуліцы, ціхія скверы над дзвінскай плынню, старыя пабудовы ў цэнтры і гмахі новых раёнаў. Палачане любяць свой горад, ганарацца ім, як і сваімі славутымі землякамі Ефрасінняй Полацкай, Францыскам Скарынам, Сімяонам Полацкім.

Кожнай раніцы людзі спяшаюцца на працу. Углядаючыся ў іх вочы і твары, міжволі думаеш: а якімі былі яны, палачане, сто, тысячу гадоў назад? Відаць, такімі ж — светлымі, натхнёнымі і добрымі.

# ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ



уліцы старажытнага горада... Высланыя бярвеннем і плахамі, часам гнілыя і брудныя, нясуць яны нястрымны людскі паток да плошчы каля храма. Усіх склікае вечавы звон. Спяшаюцца кавалі, броннікі, гарбары. А ганчары ледзь не ўсёй слабадою ідуць, гатовыя стаць пад княжацкія харугвы і бараніць сваю зямлю ад чарговай варожай навалы. Князь Барыс на людскі натоўп пазірае, думу думае. Час у паход выступаць...

А па вузенькіх вулачках горада спяшаецца дзяўчынка гадоў дзесяці. Гэта Прадслава. Ідзе хутка і ўпэўнена — горад ёй добра знаёмы.

Прадслава паднялася на ўзвышша і апынулася каля Вышняга замка. Тут, як і каля княжацкіх палат, стаіць надзейная варта. У кальчугах, з даўжэзнымі коп'ямі, вартавыя толькі ўсміхнуліся ў густыя бароды і прапусцілі Прадславу — яе ўсе ведалі.

Праз хвіліну дзяўчынка была ўжо каля самага вялікага і прыгожага збудавання ў горадзе — Сафійскага сабора. Каля яго — дзе па хатах, дзе пад часовым навесам — лечаць параненых ваяроў. З раніцы да вечара дапамагае Прадслава сваёй цётцы Раманіі. Каму вады паднясе, каму слова ласкавае скажа...

Мінулі гады. Падрасла Прадслава, пасталела. Яе бацька Святаслаў, родны брат полацкага князя Барыса, надумаў аддаць дачку замуж. Але яна вырашыла інакш: сышла да цёткі ў манастыр, каб прысвяціць сваё жыццё бедным і гаротным людзям. Маладой манашцы надалі новае імя — Ефрасіння.

Спачатку Ефрасіння жыла ў Сафійскім саборы, чытала і перапісвала кніжкі, якія па яе просьбе прадавалі, а грошы раздавалі бедным. У тыя далёкія часы школ яшчэ не было, як не было і падручнікаў. Дзяцей вучылі або бацькі, або ў манастырах і цэрквах. І вось полацкі князь, баяры сабралі грошы, запрасілі лепшых муляраў і цесляў, каб пабудаваць непадалёку ад горада новы манастыр. Назвалі яго Спаскі, а настаяцельніцай манастыра – ігуменняй – стала Ефрасіння.

Завіравала будоўля пад Полацкам. Высякалі лес пад рыштаванні будучага храма, замешвалі гліну для плясканай цэглы, якую называлі плінфаю, а мастакі-багамазы пісалі для храма абразы. Неўзабаве за манастырскай агароджаю ўзняўся цэлы гарадок з цэрквамі, хатамі, каплічкамі і студнямі. Пацягнуліся ў новы манастыр і людзі. Многія палачане імкнуліся аддаць сюды сваіх дачок, бо Ефрасіння вучыла дзяўчынак не толькі чытаць і пісаць, але і рабіць розную хатнюю работу: шыць, гатаваць ежу, вышываць і нават спяваць. Манашкі самі пасвілі статак, даглядалі свойскіх жывёл, хадзілі ў лес па грыбы і ягады. Сваім набыткам яны дзяліліся з беднымі людзьмі, давалі прытулак падарожным.

Слава аб дабрадзейнасці Ефрасінні разышлася далёка за межы Полацка. Ведалі яе ў Кіеве і ў Ноўгарадзе, ведалі яе нават у далёкай Візантыі на ўзбярэжжы Міжземнага мора. Візантыйскія імператары пасылалі Ефрасінні свае падарункі, а людзі дзякавалі за дабро, якое яна рабіла ім. Ефрасіння вучыла людзей паважаць адзін аднаго, заклікала спыніць братазабойчыя войны і княжацкія сваркі, бо зброя, казала яна, прыносіць у хату замест хлеба горыч ды слёзы. Нават вялікія князі прыслухоўваліся да голасу Ефрасінні.

Колькі пражыла Ефрасіння, дакладна ніхто не ведае. Але добрая памяць аб ёй засталася на зямлі. У Полацку, непадалёку ад вірлівай Палаты, і дагэтуль стаіць прыгожая, нібыта лялечная, царква, збудаваная князёўнай-манашкай. Гэту царкву людзі завуць Спаса-Ефрасіннеўскай.

## КІРЫЛА ТУРАЎСКІ



даўніх часоў на Беларусі было шмат гарадоў і вёсак. Жылі ў іх рамеснікі і сяляне, гандляры і ваяры і, вядома ж, князі — тагачасныя магутныя валадары. Калі ж свет спазнаў адзінага Бога, па загаду князёў у гарадах пачалі ставіць у Яго гонар храмы, будаваць манастыры. З далёкай Візантыі, з Канстанцінопаля, прыязджалі першыя святары і вучылі людзей Слову Божаму. Так паступова ўтвараліся на нашых землях хрысціянскія цэнтры, адкуль і распаўсюджвалася вера Хрыстова.

Адным з такіх цэнтраў быў старажытны горад Тураў, названы ў гонар князя Тура, які, згодна з паданнем, прыйшоў на багатае Беларускае Палессе з паўночных скандынаўскіх краін. Горад стаяў на скрыжаванні гандлёвых шляхоў і меў вельмі зручнае геаграфічнае становішча. У XII стагоддзі Тураву падпарадкоўваліся многія гарады: Пінск, Бярэсце, Давыд-Гарадок, Слуцк, Копысь і іншыя. Гэта было вялікае княства — Тураўская зямля. У самім Тураве на той час было каля сарака цэркваў і манастыроў.

І вось у такім славутым горадзе, у заможнай сям'і, нарадзіўся хлопчык, якому суджана было стаць вядо-

мым пісьменнікам-прапаведнікам пад імем Кірыла Тураўскі. Пра яго юнацтва нічога невядома. Мяркуюць, што пачатковую адукацыю Кірыла атрымаў дома ці пры адным з гарадскіх манастыроў. Веды яго для таго часу былі проста незвычайныя. Ён дасканала спасціг усе навукі пра слова, розныя граматыкі, царкоўную гісторыю. Акрамя роднай і царкоўнаславянскай мовы валодаў грэчаскай і, магчыма, лацінскай. Кірыла мог чытаць рэдкія кнігі, прывезеныя ў Тураў з Візантыі і іншых заходніх краін. А кнігі ў тыя часы каштавалі вельмі дорага. За адну рукапісную кнігу часам аддавалі цэлы гурт авечак ці некалькі кароў і коней.

Ужо ў маладыя гады Кірыла вырашыў прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу і быў пастрыжаны ў манахі. Дні праходзілі ў цяжкай працы і малітвах. На манастырскіх падворках манахі гадавалі свойскую жывёлу, вырошчвалі садавіну і агародніну, збіралі ў лесе грыбы і ягады. Прытрымліваючыся царкоўных правілаў, часта пасцілі і шмат маліліся. А яшчэ чыталі і перапісвалі кнігі – гэта быў іх галоўны занятак. Пэўна, такая праца найбольш падабалася Кірылу.

Ціхае манастырскае жыццё здавалася замкнёным ад знешняга свету, але манахі ведалі, што адбывалася навокал. А там, за сценамі келляў, за манастырскаю брамаю было шмат несправядлівасці, хлусні, абразаў і крывавых войнаў. Князі ваявалі за ўладу, за новыя землі, багатыя імкнуліся абрабаваць бедных, нават царкоўнікі спрачаліся паміж сабою за ўладу над чалавечымі душамі.

Кірыла Тураўскі ўсё гэта бачыў і цяжка перажываў. Каб замаліць людскія грахі, ён добраахвотна зачыніўся ў стаўпé – высокай драўлянай вежы на беразе Пры-

пяці, непадалёку ад манастыра. Многія месяцы яму прыносілі туды толькі ваду і хлеб. Сам жа манах маліўся за людзей і пісаў свае неўміручыя творы. Гэта былі словы-казанні на розныя рэлігійныя святы, павучальныя прытчы, звароты да князёў і царкоўных уладароў. Ён заклікаў людзей прымірыцца ў імя Хрыста, любіць адзін аднаго, як любіць усіх Бог, не дзяліць і не руйнаваць тое, што дадзена Богам усім аднолькава. Літаратурныя творы Кірылы Тураўскага вылучаліся красамоўствам, яго паэтычныя вобразы былі дасціпныя і разумныя. «Сёння вясна красуе, ажыўляючы зямлю,– пісаў ён,– і моцныя вятры, ціха веючы, плады спеляць, і зямля, насенне кормячы, зялёную траву нараджае. Вясна красная – вера ёсць Хрыстова, моцныя вятры – грэшныя думкі, якія пакаяннем ператвараюцца на дабро...»

Жыхары Турава добра ведалі Кірылу, паважалі яго за чысціню думак і ўчынкаў, а таму папрасілі стаць іх духоўным настаўнікам і кіроўцам – епіскапам. Гэта быў выключны выпадак у нашай гісторыі, калі такое абранне адбывалася па волі простых людзей. Стаўшы епіскапам, Кірыла яшчэ болей рупіўся, каб данесці да людзей Слова Божае, каб навучыць іх дабру і любові. Горад Тураў стаў асяродкам Веры Хрыстовай, адукацыі і культуры.

Прайшлі стагоддзі, як скончылася зямное жыццё Кірылы Тураўскага. Але разам з Ефрасінняй Полацкай, князёўнай-манашкай Рагнедай і іншымі святымі ён і сёння нябесны заступнік і асветнік зямлі беларускай. Яго словы, прытчы і казанні абуджаюць у людзях галоўнае – любоў да Бога, да сваёй зямлі і да чалавека.



## НЯМІГА



а свеце шмат розных рэк. Адны — шырокія, як мора. Другія — вірлівыя і бруістыя. Трэція — вузкія і выгінастыя. І ёсць адна незвычайная рака: яна цячэ... пад зямлёю. Гэта — Няміга.

Хто з мінчан не ведае, дзе знаходзіцца стары Мінск?! Спытайце — і вам любы адкажа: «Там, на Нямізе». Сапраўды, там, дзе калісьці ўзвышаліся валы старажытнага горада, дзе пераклікаліся шматгалоссем званы цэркваў і касцёлаў, віравала жыццё,— сёння вуліца Няміга. Гэта адна з самых старых вуліц Мінска. Уздоўж Нямігі жылі гандляры і рамеснікі, па ёй да брамы сярэдневяковага замчышча праязджалі князі і замежныя госці. Але ці ведаеце вы, што некалі гэта вуліца была ракой? Невялікая, яна ўжо ў XI стагоддзі праславілася на ўсё Полацкае княства і далёка за яго межамі.

*На Нямізе галовы сцелюць снапамі,*
*харалужнымі малоцяць цапамі,*
*жыццё кладуць на таку злюцела,*
*веюць душу ад цела.*

*Нямігі крывавыя берагі*
*не збожжам былі засеяны зноў –*
*засеяны косцьмі рускіх сыноў.*

Так аўтар выдатнага літаратурнага помніка часоў Кіеўскай Русі «Слова пра паход Ігаравы» апісаў бітву на Нямізе паміж полацкім князем Усяславам Чарадзеем і кіеўскімі князямі братамі Яраславічамі. Бітва адбылася ў сакавіку 1067 года. З гэтага ж года пачынае сваё гістарычнае існаванне на старонках летапісаў горад Менск.

Многае на сваім вяку бачыла рака Няміга. Ад часу звузілася і змялела так, што сёння і выток яе знайсці нялёгка. Ад ручая, які выцякаў з балота на скрыжаванні сучаснай вуліцы Грушаўскай і Разінскага завулка, застаўся толькі невялікі равок.

Цяжка нават уявіць, што калісьці Мінск быў падобны на знакамітую Венецыю – горад на вадзе. Толькі замест мора і каналаў праз яго працякала рака. Каля самага вусця Няміга падзялялася на два рукавы, абдымала старадаўні дзядзінец горада і рабіла яго недаступным для ворага. Акрамя таго, гэта была адзіная ў Беларусі рака-вуліца. У межах горада цераз Нямігу былі пракладзены шматлікія масткі, а ў некаторых месцах – суцэльныя драўляныя насцілы. Па іх людзі хадзілі і ездзілі, а пад насціламі мог праплысці човен. Чым толькі не гандлявалі на гэтых мастках! Але найбольш славіўся рыбны кірмаш. Рыбу прадавалі вэнджаную, салёную, вяленую і, вядома, свежую, жывую. Кажуць, калі гандляры не паспявалі за дзень прадаць усю жывую рыбу, то ўвечары яе выпускалі ў Нямігу. Прасцей было налавіць зноў, чым трымаць да раніцы наступнага дня.

Паступова горад пашыраўся, і ўздоўж вуліцы-ракі ўзніклі прамысловыя фабрыкі. Сваімі сцёкамі яны забруджвалі Нямігу. Чатырохметровае рэчышча на пачатку нашага стагоддзя звузілася да двух метраў, а глыбіня зменшылася да паўметра. Яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы быў распрацаваны першы план захавання ракі ў жалезабетонны калектар пад зямлёю. Але здзяйсняцца ён пачаў толькі ў 1926 годзе. Спачатку ў бетон схавалі ніжнюю частку ракі, а пазней, у 1955 годзе, яна ўся знікла пад зямлёю.

Вось так і цячэ сёння славутая Няміга ў цёмных трубах. Архітэктары і інжынеры мяркуюць, што ў недалёкім будучым Нямігу можна будзе падняць на свет белы. І яна зноў упрыгожыць нашу сталіцу. А пакуль можна паглядзець толькі на вусце ракі, тое месца, дзе яна ўпадае ў Свіслач. Прайдзіцеся ад Траецкага прадмесця ўздоўж Свіслачы. Цяпер тут станцыя метро «Няміга». З боку старадаўняга замчышча і ўбачыце тое месца, дзе з-пад зямлі вытыркаецца прамавугольная жалезабетонная труба. Гэта і ёсць яна, летапісная рака.



# УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ



У краі блакітных азёр, паміж дзвюма рэчкамі – Дзвіной і Палатой, на высокім пагорку вырас горад Полацк. Пагалоска аб ім хадзіла па ўсім белым свеце. Прыязджалі сюды гандляры з Візантыі, Кіева, Ноўгарада і Балтыі, прыходзілі асілкі-ваяры, каб папоўніць дружыну полацкага князя.

Правіў жа ў Полацку князь Усяслаў Брачыславіч. І не было ў XI стагоддзі князя, мацнейшага за яго. Слава Усяслава дасягала далёкіх краёў. Разляталіся чуткі, што князь – чараўнік, пярэварацень-ваўкалак і апякаюць яго старадаўнія багі Мокаш, Пярун, Леля ды Вялес.

Калі памёр бацька Усяслава – вялікі полацкі князь Брачыслаў, пачаў малады княжыч дружыну збіраць. Народная быліна апавядае, што згуртаваў ён аж сем тысяч ваяроў. І ўсе маладыя, ды і самому князю было тады пятнаццаць гадоў. Мацаваў Усяслаў горад, а з ім і ўсю Полацкую зямлю. Пабудаваў у Полацку новы вялікі замак, абнёс яго высокай драўлянай сцяною ды глыбокімі равамі. Не пераскочыць, не пералезці. У самім жа замку белакаменнае дзіва паўстала – царква ў імя Святой Сафіі, альбо Мудрасці Божай. Вышэй нябёс узносіліся галовы-макаўкі незвычайнага храма. Будавалі яго палачане разам з візантыйскімі майстрамі-дойлідамі.

Гарачыя вятры з поўдня ды ледзяныя з поўначы наганялі хмары на блакітныя нябёсы Полацкай дзяржавы. Вымаў тады Усяслаў з похваў меч свайго прадзеда Рагвалода, клікаў валадарскую дружыну. Так было, калі тры кіеўскія князі, тры браты Яраславічы, сабралі войска агромністае і рушылі паходам на палачан. Па-

дышлі і да Менска. Зямля наўкола дымела – гарэлі вёскі, падпаленыя Яраславічамі. Жыхары Менска адмовіліся адчыніць гарадскую браму. За тое і смерць прынялі мужчыны, а жонкі з дзецьмі ў палон трапілі.

Рушылі тры браты з нарабаваным дабром далей. «Заваюем,– гразіліся,– усю зямлю Усяслававу». А тым часам Усяслаў кінуўся ім напярэймы. У сакавіку 1067 года сустрэліся дзве дружыны на рацэ Нямізе.

Шмат загінула ў той бітве ваяроў, але наступ варожы спынілі. Браты Яраславічы запрасілі Усяслава на перамовы, падманам схапілі яго і пасадзілі ў турму разам з сынамі. Болей года пакутаваў у няволі Усяслаў. А за гэты час кіяўляне прагналі свайго князя, вызвалілі з турмы Усяслава і абралі яго вялікім князем кіеўскім.

Мудра княжыў Усяслаў Брачыславіч, адбіваў напады качэўнікаў-стэпавікоў. А самога вельмі на радзіму цягнула. І невыпадкова ён вярнуўся ў свой любы Полацк. То ваўком, бывала, абернецца, то турам, то сокалам. Абягаў ды аблятаў межы сваёй дзяржавы, даглядаючы і ахоўваючы яе ад чужынцаў. За што і празвалі яго Чарадзеем.

Было ў князя шасцёра сыноў. Напрыканцы жыцця прызначыў Усяслаў кожнаму з іх сядзець у сваім горадзе: каму ў Менску, каму ў Віцьбеску, каму ў Друцеску, каму ў Лагожаску ды Брачыслаўлі. Запавет даў, каб жылі браты ў любові і прыязнасці адзін да аднаго, каб разам мацавалі і баранілі сваю зямлю, свой народ.

Пражыў Усяслаў Чарадзей больш за семдзесят гадоў. Пры яго жыцці першая беларуская дзяржава – Полацкая зямля – дасягнула найвышэйшай велічы і магутнасці, уславілася паміж іншымі дзяржавамі. А нам, сваім нашчадкам, пакінуў Усяслаў у спадчыну любоў да Бацькаўшчыны і волі.



## АНДРЭЙ ПОЛАЦКІ



вялікага князя Альгерда, які валодаў землямі Усходняй Беларусі і меў сталіцу ў Віцебску, было дванаццаць сыноў. Старэйшы быў Андрэй. Ішло XIV стагоддзе — складаны, ваяўнічы час. Таму ўсе Альгердавы сыны з маленства вучыліся сядзець на кані і трымаць зброю. Дзіва што! Хто толькі ні спрабаваў адняць кавалак нашай зямлі, якая на той час называлася Вялікім княствам Літоўскім, а яе жыхары — ліцвінамі. Вялікія нівы і сенажаці, лясы, поўныя дзікага звера, рыбныя рэкі і азёры — усё гэта прыцягвала прагныя позіркі суседзяў з захаду і ўсходу.

Андрэй яшчэ ў маленстве вылучаўся здольнасцямі да вайсковай справы. Нездарма князь Альгерд браў сына з сабою ў дальнія паходы і крывавыя сечы. У самае пекла яго, вядома, да часу не пускалі, але затое ён вучыўся ўмельству правільна расставіць на полі палкі, зрабіць засаду ў самым нечаканым месцы, прытрымаць частку войска, каб кінуць яго на ворага ў самы адказны момант. А яшчэ вучыўся Андрэй браць штур-

мам гарады, ладзіць лесвіцы і гаціць ссечаным хмызняком абарончыя равы, цяжкім бярвеннем на ланцугах выбіваць замкавыя брамы.

Шмат чаму навучыўся ў бацькі Андрэй. Таму і наслаў яго Альгерд у Пскоў, на абарону паўночных земляў. Было на той час маладому князю ўсяго семнаццаць гадоў.

Шэсць гадоў Пскоўская зямля жыла ў міры, і ўсе былі задаволены. Тады і палачане, сабраўшыся на агульны сход-веча, вырашылі запрасіць да сябе маладога Альгердавіча. Так Андрэй апынуўся ў Полацку. А за слаўныя справы свае атрымаў пасля ганаровае найменне – Полацкі.

У Полацкай зямлі мірных летаў было нямнога. З поўначы штогод набліжалася нямецкая пагроза. Ваяўнічыя рыцары-крыжакі паступова захоплівалі землі Падзвіння, будуючы на іх свае крэпасці. Вясной 1366 года крыжакі спрабавалі захапіць і Полацк. Але палачане на чале з князем Андрэем адбілі напад і самі пайшлі паходам на нямецкі горад Дынабург. У бітвах з немцамі і праходзілі гады княжання Андрэя ў Полацку.

Пасля смерці вялікага князя Андрэй Полацкі спадзяваўся стаць бацькавым спадчыннікам. Але Альгерд вырашыў інакш. Ён прызначыў сваім наступнікам князя Ягайлу, малодшага сына. Паміж братамі ўспыхнула зацятая варожасць.

А тут яшчэ і над землямі Маскоўскага княства навісла пагроза мангола-татарскага нашэсця. Вялікі князь маскоўскі Дзмітрый разаслаў сваіх пасланцоў па ўсіх дзяржавах і землях з просьбаю аб дапамозе. Андрэй Полацкі адгукнуўся, спадзеючыся, што пасля Масква і яму дапаможа вярнуць бацькаў пасад.

Ішоў знакаміты 1380 год. Незлічоныя орды хана Мамая спусташалі землі Маскоўскага княства. Здавалася, няма на свеце сілы, якая б магла спыніць гэты жудасны набег. Як на апошні бой, выпраўляліся насустрач Мамаю дружыны маскоўскага князя. А разам з імі ішлі дружыны Андрэя Полацкага, яго брата Дзмітрыя Ноўгарад-Северскага і ваяводаў-ліцвінаў Дзмітрыя Баброка з Валынскай зямлі і братоў Друцкіх. Восьмага верасня сышліся яны на Куліковым полі з ханскай ардой. Перад бітвай Андрэй Полацкі раздзяліў сваё войска на тры часткі і ўзначаліў полк левай рукі. А полк на чале з Дзмітрыем Баброкам пакінуў у засадзе. Ні на крок не адступалі воіны Андрэя Полацкага. А ў самы рашаючы момант засадны полк моцным ударам цяжкай конніцы прымусіў татар бегчы ў свае стэпы.

Князь Андрэй вярнуўся ў Полацк пераможцам. Але тут яго не чакалі. Брат Ягайла захапіў у свае рукі ўсю ўладу і збіраўся стаць польскім каралём. Ён усюды прызначаў сваіх прыхільнікаў. Масква таксама не магла дапамагчы Андрэю Полацкаму, бо праз два гады пасля Кулікоўскай бітвы яе захапіў і спаліў хан Тахтамыш. У роспачы Андрэй Полацкі пачаў шукаць падтрымкі ў сваіх заклятых ворагаў – крыжакоў. Нават выправіўся з імі ў паход на свой родны Полацк. Але войска яго разбілі, а сам ён трапіў у палон да Ягайлы і апынуўся ў турме.

Андрэй Полацкі быў мужным чалавекам і ўмеў прызнаваць свае памылкі. Калі над Бацькаўшчынай зноў навісла татарская пагроза і яго стрыечны брат Вітаўт пачаў збіраць войска, Андрэй папрасіў адпусціць яго на гэту бітву. У 1399 годзе былы князь пскоўскі і полацкі, сын вялікага Альгерда, у першых радах сек

татараў на рацэ Ворскле. А ішоў яму ўжо сёмы дзесятак! Бітва была нешчаслівай для нашых дружын. Татары атрымалі падмацаванне, і перамагчы іх добра ўзброенаму, але маломy войску ліцвінаў не ўдалося. Трэба было ратаваць рэшткі войска, таму Андрэй Полацкі з невялікай дружынай застаўся прыкрываць адыход Вітаўта. У апошні дзень свайго жыцця ён думаў не пра сябе, не пра княжацкі пасад і славу, а пра Радзіму, якой яшчэ неаднойчы прыйдзецца змагацца з рознай набрыддзю, каб сцвердзіць сваю свабоду і незалежнасць.

## ВІТАЎТ




даўнія часы наша Радзіма мела розныя назвы. Некалі яна называлася Вялікім княствам Літоўскім. Тады ў яе ўваходзілі многія княствы і землі ад Балтыйскага да Чорнага мора. Першай сталіцай дзяржавы быў горад Навагрудак, потым – Вільня. А на чале дзяржавы заўсёды стаялі слаўныя князі, сярод якіх асабліва вылучаўся Вітаўт Вялікі. У гады яго кіравання беларускае гаспадарства дасягнула сваёй найбольшай велічы і магутнасці.

Вітаўт нарадзіўся ў вялікакняжацкай сям'і. Яго бацька Кейстут вызначаўся адвагаю і вайсковым умельствам. І на яго плечы лёг асноўны цяжар барацьбы з нямецкімі рыцарамі-крыжакамі. З малых гадоў Вітаўт вучыўся трымаць у руках зброю, сядзець на кані.

Усходняя частка Вялікага княства належала князю Альгерду – брату Кейстута. Калі памёр Альгерд, яго сын Ягайла выpашыў стаць адзінаўладным гаспадаром у дзяржаве. Па-здрадніцку былі забіты Кейстут і яго

жонка. Вітаўт не мог дараваць стрыечнаму брату смерці бацькоў і зацята ваяваў з ім. Тым часам крыжакі, карыстаючыся бязладдзем у дзяржаве, вынішчалі землі Вялікага княства. А браты, Ягайла і Вітаўт, то біліся, то мірыліся. Аж пакуль палякі не прапанавалі Ягайлу стаць іхнім каралём. І ён пагадзіўся, бо меў намер аб'яднаць Беларусь з Польшчаю.

Вялікаму князю Вітаўту прыйшлося прыкласці шмат намаганняў, каб адстаяць незалежнасць Бацькаўшчыны. Ён быў у прыязных адносінах з татарскім ханам Тахтамышам, якому нават дазволіў доўгі час жыць у сваім горадзе — Лідзе. З тае пары татары сталі атабарыліся на Беларусі. Праз Тахтамыша Вітаўт стрымліваў напады на родную зямлю Маскоўскага княства, адбіваўся ад крыжакоў.

Славуты беларускі паэт Мікола Гусоўскі, амаль сучаснік Вітаўта, напісаў паэму «Песня пра зубра». У ёй, сярод іншага, распавядаецца пра частыя паляванні, якія ладзіў Вітаўт у беларускіх пушчах. Так, палюючы на лясных звяроў, яго людзі вучыліся валодаць кап'ём, рагацінай, лукам, каб біць потым крыжакоў.

У 1410 годзе, замірыўшыся з Ягайлам, Вітаўт павёў свае войскі на нямецкіх рыцараў. Пад мястэчкам Грунвальд адбылася вялікая бітва. У смяротным паядынку сышліся людзі і коні, трава пачырванела ад крыві. Дзякуючы мужнасці беларусаў, палякаў і татар, якіх прывёў Вітаўт, крыжакі былі разбіты ўшчэнт.

Вітаўт Вялікі стварыў моцную дзяржаву. З ім стараліся жыць у міры і згодзе многія суседзі, бо не толькі баяліся, але і паважалі яго, адважнага, мудрага і справядлівага. Сапраўды, як пісаў Мікола Гусоўскі, Вітаўт «ставіў агалены меч свой, як слуп пагранічны», бароняцы і мацуючы Бацькаўшчыну.

## ГАРОДНЯ



У сутоках бруістай Гараднічанкі і сівога бацькі Нёмана, на высокім рачным адхоне, паўсталі ў XI стагоддзі муры старадаўняга горада. Цяжка цяпер сказаць, хто першы з прыезджых гандляроў панёс па свеце яго гордае імя. І кожны — на свой лад: Гарадзень, Горадня, Гародня, Гродна. Відаць, назва паходзіла ад слоў «гарадзіць», «агароджваць».

Няпроста складваўся лёс горада. Перш за ўсё таму, што паўстаў ён на сумежжы розных зямель-княстваў: Літвы, Польшчы, Полацкай дзяржавы і Галіцка-Валынскай Русі. Але ў гэтым быў і яго шчаслівы лёс. Гародня стала буйнейшым гандлёвым цэнтрам. Каго тут толькі не было! Але найбольш прыязджалі на кірмашы прадпрымальныя еўрапейцы. Яны не толькі прывозілі свае тавары, але і шмат тавараў набывалі ў Гародні, дзе жылі ўмелыя ліцейшчыкі, ганчары, кавалі, шаўцы, цеслі, збраяры, ювеліры, нават майстры дзіцячых цацак.

Пра горад над Нёманам хадзілі цэлыя паданні. Многім карцела пераканацца ў яго багацці сілай сталёвага мяча. Але горад мужна абараняўся. Адстойваючы яго незалежнасць, загінуў гарадзенскі князь Ізяслаў — унук знакамітага Усяслава Чарадзея полацкага. Гэта аб ім, Ізяславе, плача «Слова пра паход Ігаравы»:

*Адзін толькі Ізяслаў, сын Васількаў,*
*на траве крывавай*
*быў прыбіты літоўскімі мячамі...*
*Зажурыліся галасы,*
*весялосць панікла,*
*трубы трубяць гарадзенскія.*

Славу і веліч, як і незалежнасць, набыла Гародня ў часы князя Давыда. Быў той Давыд сынам пскоўскага валадара Даўмонта, беларуса па паходжанні. Нялёгка жылося нашым продкам. Мірнаму жыццю пастаянна пагражалі закаваныя ў жалезныя латы крыжакі. У абарону свайго народа і выступіў Давыд Гарадзенскі. Ён шмат зрабіў для згуртавання сіл супраць крыжацкай навалы. Створаны ім саюз узначаліў князь Віцень, які за сталіцу новай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага – абраў Гародню. А каб усе ведалі, што гэта дзяржава моцная і незалежная, прыдумаў герб – узброены, на кані вершнік, інакш – «Пагоня». Пагоня заўсёды імчала на захад, супраць крыжакоў, якія і былі пераможаны пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Праз стагоддзі пранесла Гародня сваю непаўторную прыгажосць. Сярод нямногіх уцалелых на Беларусі помнікаў вылучаецца Свята-Барыса-Глебская (Каложская) царква XII стагоддзя. Адна яе сцяна абвалілася, але тое, што захавалася, здзіўляе шматколернасцю фарбаў, веліччу і ў той жа час – утульнай хатняй цеплынёю. На месцы старога гарадзішча ўзвышаецца замак, збудаваны яшчэ каралём Рэчы Паспалітай Стэфанам Баторыем. Тут была каралеўская рэзідэнцыя, дзе прымалі венецыянскае пасольства, праводзілі з'езды-соймы вялікай дзяржавы, у склад якой уваходзілі беларускія, украінскія, польскія і літоўскія землі.

Прайсціся па вулачках старога горада – усё роўна што павандраваць на машыне часу. Адзін за адным сустракаюцца будынкі колішніх манастыроў, касцёлаў. На фарным езуіцкім касцёле, напрыклад, па сённяшні дзень на вежы захаваўся гадзіннік. Гэта ледзь не пер-

шыя ў Еўропе куранты. Столькі мінула часу, а як дакладна яны ідуць! Крыху далей – Новы замак. Яго будавалі тыя ж славутыя архітэктары, што і палац Цвінгер – знакамітую Дрэздэнскую галерэю. Не дзіва, што гэтыя старадаўнія будынкі і сёння яшчэ хаваюць таямнічыя скарбы. Параўнаўча нядаўна ў скляпеннях Новага замка была знойдзена бібліятэка, а ў адным з кляштараў – калекцыя рэдкіх карцін.

Здаўна Гародня – буйнейшы на Беларусі прамысловы і культурны цэнтр. Гарадзенскі стараста Тызенгаўз заснаваў тут некалі шматлікія мануфактуры, у тым ліку і рэдкія – гарматную, карэтную, залататкацкую. На асобных з іх працавала да паўтары тысячы чалавек. Заснаваў Тызенгаўз і першы тэатр, акцёры якога паклалі пачатак Варшаўскаму тэатру оперы і балета.

У другой палове XIX стагоддзя на Беларусі наспявае народнае паўстанне. Цэнтрам рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі, якую ўзначалілі Кастусь Каліноўскі і Валерый Урублеўскі, была абрана Гародня.

Славуты горад! Прыгожы, непаўторны, загадкавы. Стагоддзі лунаюць над яго сівою галавою. Але гэта не старасць. Гэта – сталасць і мудрасць, суквецце мінулага і будучыні.





## БЯРЭСЦЕ



сць у сучасным Брэсце музей, які створаны на месцы, дзе існаваў даўні горад. Вучоныя-археолагі раскапалі жылыя дамы, гаспадарчыя пабудовы, вуліцы. Па іх нават можна прайсціся, уяўляючы, як гудзе гаманлівы людскі натоўп. Вунь там, на падворку, з далёкай усходняй Візантыі, а можа, са Скандынавіі купец прывёз тавар: дарагія аксаміты, бліскучыя, загартаванай сталі мячы, келіхі і кубкі з празрыстага каляровага шкла, пацеркі, бранзалеты. Чаго тут толькі няма! А праз двор — круціць майстар ганчарнае кола, вырабляючы гліняныя гаршкі на продаж. Побач — другі майстар. Гэты на драўляным такарным станку выразае посуд, які ставіцца толькі на стол. Удалечыні гудзе горан кузні, на цэлы квартал разносіцца звон кавальскага молата.

Шчыльна стаяць хаты на падворках — сядзіба да сядзібы. Вуліцы вузкія, пакручастыя. «Сцеражыся!» — чуецца крык. Да княжацкага церама шалёным наметам праносяцца ваяры. Што за вестку нясуць яны? Аб міры ці аб вайне? На імгненне спынілі працу кавалі, сцішы-

лася хада ганчарнага кола, замоўк такарны станок. А праз хвіліну зноў усё зазвінела, загуло, загаманіла...

Аб тым, як узнік горад, захавалася паданне. Даўно гэта было. Невядомы купец прабіраўся з абозам праз палескія балоты. Ніхто не ведаў, хто ён і куды едзе. У тыя старадаўнія часы не было ні дарог, ні гасцінцаў. Адны толькі рэкі, рачулкі ды ручаі. Дзе вада дазваляла,— вазілі тавары на стругах ды лодках, а па сушы — цягнулі вазамі. На Палессі ж — скрозь балоты, вось і трапіў той купец у непраходную дрыгву. Што рабіць? Загадаў ён абдзіраць бярозы ды бяростаю шлях гаціць. Так і выратаваўся. Калі ж прадаў купец тавар і вяртаўся дадому, на гэтым месцы прынёс язычніцкім багам ахвяры. А само месца ў гонар бярosты-выратавальніцы назвалі Бярэсцем. Ад яго і сучасная назва — Брэст.

Ніхто не ведае імя купца. Але назва горада сведчыць, што заснаваны ён славянамі. Месца, дзе паўстаў старажытны горад, незвычайнае: з усіх бакоў абкружана водамі Буга і Мухаўца. Мухавец — невялікі, стромкі, Буг — пакручасты, спакойны, болей за тысячу гадоў цячэ як жывая мяжа паміж землямі Беларусі і Польшчы.

У старажытных летапісах Бярэсце ўпершыню прыгадваецца ў 1019 годзе, калі тут спыняўся князь тураўскі і кіеўскі Святаполк. Горад на мяжы стаў крэпасцю. У самыя даўнія часы ён належаў Тураўскаму княству. Але завалодаць Бярэсцем імкнуліся і ляхі, і валыняне, і кіеўскія русічы, і рыцары-крыжакі, і нават татары. У час жахлівага нашэсця мангола-татараў пад Бярэсцем адбылася вялікая бітва. Загінула столькі вояў, што па полю сечы немагчыма было прайсці.

Каб надзейна абараніць горад, акрамя высокіх і моцных сцен пабудавалі крэпасць у выглядзе вежы. Па-

добная крэпасць захавалася да нашых дзён у мястэчку Камянец, што паблізу Белавежскай пушчы. Уздымалася вежа высока над горадам і не дазваляла ворагу блізка падыходзіць да яго сцен.

Але неўзабаве з'явілася новая пагроза з поўначы – крыжакі. Каб выратавацца ад іх нападу, беларускія землі аб'ядналіся ў адну дзяржаву – Вялікае княства Літоўскае. У новым гаспадарстве Бярэсце заняло асаблівае, ганаровае месца. Горад першым сярод іншых пачаў жыць вольна, па сваіх уласных законах. І не дзіва! Цераз Бярэсце праходзілі ўсе самыя вялікія дарогі з Заходняй Еўропы ў Масковію, Кіеўшчыну. Горад хутка рос і квітнеў. Тут існавала больш 50 розных рамесных прафесій, праводзіліся штогадовыя кірмашы, узводзіліся цэрквы, касцёлы, сінагогі. З цягам часу горад стаў месцам, дзе праводзіліся дзяржаўныя сеймы (па сучаснаму – пасяджэнні парламента), прымаліся важныя рашэнні.

Болей ста гадоў назад у Бярэсці была пабудавана вялікая мураваная крэпасць. Яе абаронцы мужна супрацьстаялі нямецка-фашысцкім захопнікам у самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У памяць аб тых падзеях цяпер у крэпасці знаходзіцца музей.

Сёння Брэст – буйны прамысловы горад. Працуюць тут ткачы, хімікі, вырабляюць станкі, вылічальныя машыны. У кожным нашым доме гараць электрычныя лямпачкі, зробленыя брэсцкімі майстрамі. Як і тысячу гадоў назад, Брэст застаецца пагранічным горадам. Гэта – нашы вароты ў Заходнюю Еўропу. Тут заўсёды шмат гасцей, дарослых і дзяцей. Прыязджайце і вы – падзівіцца на прыгажосць старажытнага і вечна маладога горада.

# ЛІТАРЫ НА ЦЭГЛЕ

**Апавяданні**





## АДЛІГА

Адліга ў канцы лютага — суцэльная калатуша пад нагамі. Зрэдку халодны паўночны вецер прыносіць то снег, то дождж. Пачуццё няўтульнасці на гарадскіх вуліцах. Вецер чапляецца за дахі дамоў, нема вые ў комінах. Узбіраючыся на вал, ахутвае вежы і зноў знікае, распластаўшыся над Дзвіною.

Адчувалася набліжэнне вясны. Але як яшчэ далёка да сапраўднага цяпла!

Ноч. Ледзь чутны стук у шыбу.

— Хто там?

— Адчыні, гаспадыня, пусці ў хату!

— Добрыя людзі па начах не швэндаюцца. Хто ты?

— Хведар, закладнік Панфуція. Ды адчыні хутчэй, замерзну!

Жанчына накінула андарак і пайшла адчыняць.

Ляпіў мокры снег.

Праз нейкі час па лесвіцы пачуліся ціхія крокі. У хату, прыгнуўшы галаву, увайшоў чалавек. Знайшоў навобмацак лаву, сеў.

— Чакай, чакай, міленькі, зараз святло запалю.

Прачнуўся і гаспадар. Выкрасаў агонь, запаліў свяцільнік. Доўгія хісткія цені папаўзлі па хаце.

На лаве, ля самых дзвярэй, прыхіліўшыся да сцяны, сядзеў чалавек. Вочы заплюшчаны. Без шапкі, у нейкіх лахманах і дзіравых поршнях з гнілымі аборамі. Прыціх, быццам заяц, якога трымае за вушы паляўнічы. Мокрыя лахманы абвісалі на худым, змарнелым целе. Снег раставаў, вада сцякала на падлогу.

Гаспадары маўчалі. Чалавек расплюшчыў вочы. Былі яны надзіва жывыя, што ніяк не стасавалася з яго абліччам. Агледзеў хату, спыніў позірк на гаспадарах.

— Збег я, людзі добрыя, ад крывасмока баярына Панфуція. Не вытрымаў — Гасподзь сведка! Ці ж можа такое вытрымаць чалавек?

— Чулі пра твайго Панфуція,— сказаў гаспадар, цярэбячы бараду.— Не першы ты такі ў Полацку і, відаць, не апошні...

Памаўчалі.

— Адкуль будзеш?

— Знедалёк — з-пад Дзісны, з Мядзведжага Логу. Мо чулі?

— Не.

— Гаспадарка там у мяне была. Жонка, дзеці, зямелькі крыху. Усё прахам пайшло. Усё. А я пенязі адрабляць сюды трапіў. Ды толькі вось у гэтых даўгах заблытаўся. Быў араты, а стаў горш за дворнага сабаку. Хведар — туды, Хведар — сюды, прынясі, падай, пайшоў прэч! Ды ўсё са злосцю, з кулакамі. А я хто? Хто, вас пытаю? Чалавек ці жывёла? Бач ты, нейкі там ягоны прадзед з князямі знаўся, дык ён вышэй за Бога

сябе лічыць! У-у, сабачы вырадак! – Хведар моцна сціснуў кулакі.

– Што далей маеш рабіць? – голас гаспадара спакойны і разважлівы.

– Ведама што – да войта ўцяку. Не той час, каб пад гэткім гадам сядзець. Цяпер, калі вялікі князь Аляксандр дараваў нам права майборгскае, адна дарога – пад абарону гарадской рады. Яна не выдасць баярыну. Лепей ужо на горад рабіць. А то, можа, у войска падамся. Абы ад гэтага крывасмока далей!

– Глядзі-і! – сказаў гаспадар.– Нялёгка будзе, чалавеча. У горадзе тыя ж баяры, ды і войт не ад сахі – шляхціц. Пакуль яны ўсіх прымаюць, а як далей будзе – хто ведае...

– Ат, як будзе. Уцёк раз, уцяку і другі.

– Уцякай, уцякай... Калі-небудзь зловяць. Толькі галавы трымайся, каб не ўцякла.

– Мая галава, мой і клопат.

– Яно, вядома, так... Есці хочаш? Марыя, дай чаго чалавеку ўкусіць.

Але гаспадыня ўжо трымала акраец хлеба і коўш халоднага квасу. Хведар дрыжачымі рукамі схапіў хлеб і прагна стаў есці.

Пакуль еў, сядзеў моўчкі.

– Дай яму, Марыя, якое адзенне,– сказаў гаспадар жонцы,– і няхай ідзе з богам.

– Дзякуй і на гэтым,– уцякач павольна падняўся з лавы, быццам разважаючы: ісці ці не.– Добрага вам здароўя,– і, не азіраючыся, выйшаў з хаты.

Забрахаў суседскі сабака, потым другі, трэці. Але хутка ўсё сціхла. Чалавечая постаць знікла ў вузкіх вулачках начнога горада.

— Тата, навошта ты прагнаў яго? — пачуўся раптам з-за коміна дзіцячы голас.— Куды ж ён пойдзе ўночы?

— Ты што не спіш, Францыск? — Гаспадар рэзка павярнуўся да печы, адкуль выглядала бялявая галава сына.

— А ўсё-ткі, тата, навошта?

— Не твой клопат — малы яшчэ. Спі! Марыя,— звярнуўся ён да жонкі,— што за сына ты мне гадуеш? Не слухаецца бацькі.

— Кладзіся, сынок, спі! Ноч на двары. Кладзіся!

— Хведар там мокне на вуліцы, а я — кладзіся? Ты ж сам, тата, казаў, што людзям спачуваць трэба.

— Трэба, вядома,— больш лагодна адгукнуўся бацька.

— Дык навошта прагнаў? — не сунімаўся сын.

— От, мала-смала! Прыліп! Не я яго гнаў, Францыск, не я. Такі лёс ягоны. Цяпер увесь свой век валачыцца будзе. І ці спыніцца калі?

— Чаму?

— Разумееш, сынок, кожны чалавек павінен мець свае карані, як дрэва ў зямлі. А падсячэш іх — паляціш, што тое лісце долу. Вось ён, Хведар, і адсек свае...

— Дык гэта ж не ён, а баярын Панфуцій!

— Ой, і разумны ты ў мяне,— усміхнуўся бацька.— Так, Панфуцій. Толькі ад гэтага не лягчэй твайму Хведару. Ён — уцякач бяздомны, закладнік і такім застанецца ўсё жыццё. Куды б ні пайшоў, дзе б ні прытуліўся. Разумееш? Ніколі яму ўжо не быць вольным, ні-ко-лі. А гэта страшна, Францыск, вельмі страшна. Каб і хацеў я памагчы яму — не змог бы. Вядома, ад нас баярын не забраў бы яго, мы — купцы, людзі вольныя. Толькі пад войтам Хведару спакайней будзе. Колькі іх, такіх Хведараў, па зямлі нашай ходзіць. Не злічыць.

Што ведаюць, што бачаць гэтыя людзі? Праца да сёмага поту ды жыццё беспрасветнае.

— Чаму ж так, тата?

— Каб ведаць, сынок, чаму — многае б змянілася. Вось у мінулым годзе прыйшлі да нас мніхі бернардыны. Прывілеі ім князь Аляксандр даў на землі тутэйшыя. Дзіўныя рэчы расказваюць: кнігі з сабою розныя прынеслі. Кажуць, у кнігах тых — праўда ўся і мудрасць. Ды кнігі не падобны на нашы, не ад рукі пісаныя. А яшчэ кажуць браты-бернардыны, што ў горадзе Празе і ў іншых гарадах навукам розным, нават лекарскім вучаць. Вось дзе трэба розуму шукаць ды каранямі ў зямельку нашу ўрастаць. І мне, і табе, і Хведару твайму. Шкада, што гады мае ўжо не тыя... У Хведара граша ламанага за душой няма. А ты расці, сынок, расці... Хто ведае...

— Ты што гэта, ірад, гаворыш? Ты куды сына нашага сватаеш, у якую чужыну?! — Марыя ўсхапілася, як квактуха з седала.

— Сціхні, баба! Замаўчы! Нікуды я яго не сватаю. Там відно будзе. Сам свой шлях выбера.

* * *

— Спі, сынок, да раніцы яшчэ далёка. Вось і лучына патухла. Спі, мой родны! Пляце бацька няведама што... Ці ж я адпушчу цябе, маё птушаня, у далёкія чужынскія выраі?

*...Воўча вые за гарою,*
*Месяц коціцца Дзвіною...*

Спі, Францыск, сын Лукаша Скарыны з Полацка, ты яшчэ малы... Спі.



## ЛІТАРЫ НА ЦЭГЛЕ



шчэ сонейка не ўзышло над струменістай Палатой, а ў маладым бярэзніку па-над ракой разліваўся салаўіны пошчак. Кожным чэрвеньскім ранкам птушкі быццам спаборнічалі, хто лепш спявае. Васька Аляксееў, сын шклоўца Прасолава з Кардашаўскай слабады, любіў у гэты час лавіць за горадам рыбу. Ён радаваўся, калі на снеданне прыходзіў не з пустымі рукамі. Не кожны дзень выпадала трапіць на рыбалку, бо строгі бацька рана прывучаў яго да работы ў майстэрні. Разам з вучнямі-падмайстрамі і двума старэйшымі братамі выраблялі яны розныя шкляныя ўпрыгожванні – пацеркі, пярсцёнкі, бранзалеты. Асабліва падабаліся Ваську бранзалеты: пляскатыя, круглыя, кручаныя, розных колераў і адценняў, часам абвітыя танюсенькімі дроцікамі з медзі, срэбра, а то і золата. На гэтыя вырабы быў вялікі попыт не толькі ў Полацку, але і далёка за межамі княства.

Васькавы абавязкі былі нескладаныя: нешта паднесці ці падсобіць дарослым. Але ён чакаў той хвіліны,

калі бацька дазволіць яму самому варыць шкло і адліваць розныя прыгожыя рэчы.

Так марыў ён, закінуўшы вуду, і не заўважыў, як паплавок зацягнула пад корч. Тарганулўшы вудзільна раз, другі, Васька зразумеў, што давядзецца лезці ў раку. Ён раздзеўся і павольна, намацваючы дно, пачаў заходзіць у ваду. Раптам нага слізганула па бервяну, абросламу рачным багавіннем. Страціўшы раўнавагу, ён нязграбна ўзмахнуў рукамі і плюхнуўся ў ваду. Хутка плынь падхапіла яго і панесла насустрач вываратням, якія вытыркаліся на паваротах рэчышча.

— Памажыце! — закрычаў ён.— Тану!..

Ваську перавярнула набок, закруціла і шпурнула на вялізны, схаваны пад вадою валун...

Калі ачомаўся, убачыў над сабою барадатага чалавека ў чорнай аксамітавай шапачцы.

— Жывы? — пачуў ён спакойны голас.

— Ага,— разгублена адказаў Васька, успомніўшы сваю рыбацкую прыгоду.

Ён павярнуў галаву і адчуў, як дыхнула цяплом ад глінянай пабудовы. Глянуў у другі бок — і ўбачыў чалавечыя ногі, якія мясілі гліну ў вялізным драўляным чане.

— Дзе я? — спытаў ён.

— У манастыры, у святым месцы. Ачуняў, дзякаваць Богу. То будзеш доўга жыць,— адказаў барадаты манах.

Васька прыўзняўся і сеў. «Далёка ж мяне занесла»,— падумаў ён. Сапраўды, хуткая Палата закінула яго пад манастырскія сцены. Васька ведаў, што пад Полацкам, на епіскапскім двары пад назваю Сяльцо, для дачкі князя Георгія будуецца манастыр. У горадзе кожны чуў незвычайную гісторыю прыгожай князёўны Прадславы, якая пажадала служыць Богу. Яна збегла

з-пад вянца і стала манашкаю Ефрасінняй. Але ў манастыры хлопчык ніколі не быў.

— Што гэта? — спытаў ён манаха, паказваючы на перавернуты дагары гліняны кацёл.

— Гэта печ для абпалу цэглы,— адказаў той.

— А ногі?

— То людзі месяць гліну, з якой пасля вырабляюць цэглу.

— Навошта?

— Каб з цэглы будаваць царкву. Вунь, бачыш, стаяць драўляныя рыштаванні. Па іх носяць цэглу, складваюць з яе сцены.

Будоўля ішла поўным ходам. Васька падняўся на ногі, зрабіў некалькі крокаў. Прама пад яго нагамі праскочыла кацяня. Ды не проста праскочыла, а прабегла яшчэ і па драўлянай рамцы, запоўненай сырой глінай.

— Гляньце,— паказаў ён,— каток па гліне прабег. Цяпер катковы лапкі застануцца.

— Хай сабе. Гэта ўжо не проста гліна,— сказаў манах,— а будучая цэгла. Яна пакладзена ў спецыяльныя формы, каб сохла... Цябе як завуць?

— Васька Аляксееў, сын шклоўца Прасолава з Кардашаўскай слабады.

— Паглядзі, Аляксееў сын, колькі размаітых знакаў застаецца на гэтай цэгле...

Хлопчык пачаў углядацца ў формы, што ляжалі на зямлі і займалі добрую частку двара. На іх сапраўды было мноства розных знакаў. Асабліва яго ўразіла цагліна з нейкімі значкамі, падобнымі на кручкі, крыжыкі ды рысачкі.

— А гэта што? — спытаў ён.

— Знакі,— адказаў манах.— Усе яны старажытныя, але напісаны чалавекам сёння. Зорачка, кола, крыж — старажытныя сімвалы Сонца і Бога, а Бог і ёсць Сонца.

— А гэтыя кручкі?

— То не кручкі, а найвялікшае дзіва, што прасвятляе розум чалавечы,— літары.

— Навошта яны? — спытаў хлопчык.

— Літары складаюцца ў словы, словы — у сказы, а сказы — у кнігі, якія потым чытаюць людзі. Усё, што было і ёсць, можна запісаць на дошчачцы, на спецыяльна апрацаванай скуры ці проста на гліне. Вось скажы: «Аз есмь».

— Аз есмь,— паўтарыў Васька.

— Але хто ведае, акрамя нас з табою, што ты сапраўды ёсць? А калі тое ж напісаць, то кожны, хто прачытае, будзе ведаць, што ты «есмь» на белым свеце.

— Няўжо кожны?

— Вядома. Пры ўмове, што ён умее чытаць.

— Як гэта?

— А вось глядзі,— манах падняў з зямлі палачку, абламаў яе і вострым канцом напісаў на будучай цагліне літару «а».

— Гэта аз — першая літара альфабета. З яе пачынаецца слова аз — «я».

Потым ён напісаў літару «б».

— Гэта літара букі. З яе пачынаецца слова «Бог», які ўладарыць над намі, небам і зямлёй. А вось гэта літара — ведзі.— Манах напісаў літару «в».— Яна азначае веды — навуку, якая прасвятляе розум чалавечы. Паміж іншым, з яе пачынаецца і тваё імя — Васілій.

— Няўжо гэта я? — здзівіўся хлопчык.

— Ты, ты,— усміхнуўся ў бараду манах,— тваё імя, а дакладней — першая яго літара. Цяпер яна назаўжды застанецца на гэтай цагліне.

— І яна ляжа ў царкоўную сцяну?

— А як жа! Твая літара будзе ляжаць побач з аз і букі, з адбіткамі лапак птушак і жывёл...

Шчасліва ўзрушаны хлопчык вяртаўся дадому, напяваючы: «Аз-букі-ведзі, аз-букі-ведзі!» Разам і паасобку літары гучалі, як салаўіны пошчак, і ён не заўважыў, як апынуўся на сваім падворку. Бацька адразу пазнаў сынаў голас. Ён не спытаў, ці налавіў той рыбы, толькі падумаў, што ўвосень самы раз аддаваць хлопца ў навуку.

...Прайшло восем стагоддзяў. І сёння ў Полацку над Палатою стаіць храм у гонар Спаса Хрыста. У сценах таго храма ляжаць цагліны з птушынымі і катковымі лапкамі, а таксама — з найстаражытным пачаткам альфабета. І трэцяя яго літара не проста ведзі, а жывое ў стагоддзях імя Васіля Аляксеева, сына шклоўца Прасолава з Кардашавай слабады.

## КРЫЖ



фросинья ж раба Христова сътяжавъши крест сии прииметъ вечную жизнь съ всеми святыми...»

Майстар разагнуўся, сеў, абапіраючыся на рукі. Рукі нылі, як і спіна, у вачах мільгацела ад бляску пазалоты.

Нарэшце ўсё. Ігуменння будзе задаволена. Але як цяжка, як цяжка ў апошні час працаваць! Немалады ўжо. А чаляднiку такi заказ не даручыш.

Ён устаў, адышоўся ад стала. Прытуліўся да сцяны, зноў глянуў на крыж. Няблага, няблага выйшла. Такога ён яшчэ не рабіў.

...Сама маці ігуменна разам з уладыкам Касьмой паклікала яго да святой Сафеі. Кінуўся ім тады сівы Лазар у ногі, але падымаць яго не спяшаліся: далі адчуць, што ён — нішто, халоп бязродны. Паваляйся трохі, успомні, хто ты і дзе, набярыся цярплівасці, павагі і пакорлівасці.

Ды ён і не крыўдаваў. Розных нагледзеўся ўладык. А што халоп і гонару не мае — праўда. Дзень і ноч гне спіну над работаю. А паспрабуй інакш — з голаду, як сабака, здохнеш. Бо каму трэба яго майстэрства, апрача князёў, епіскапаў ды купцоў заможных? У каго яшчэ грошы? Мо ў абадранца Алексы, што дзярэ горла на вечы за кожнага, хто добра заплаціць? Ці ў суседа — Пятра-кажамякі? Не, яго работа не для чорнага люду. На Вялікім пасадзе і без яго ёсць каму бразготкі рабіць. Яшчэ колькі! І пярсцёнкі, і пацеркі, і бранзалеты... Ды і з Кіева вязуць! Ледзь не вазамі. Праўда, кіеўскія даражэйшыя, асабліва каляровыя. І ўсё ж не для яго гэта работа. Не можа ён разменьвацца на дробязі.

...Маці ігуменна звысоку на яго паглядае. Колькі пагарды ў яе позірку! «Мы даруем табе міласцію нашай і даручаем... А калі не зробіш ці зробіш не даспадобы... і, крый Божа, утаіць што...»

Ці ўпершыню ён чуе гэта? Даўно яе ведае, яшчэ з маленства. І Касьма позіркам працінае, пад Ефрасінню падладжваецца. Папярэднік яго, Ілья,— царства яму нябеснае — святы быў чалавек. А гэты — хітры і надзьмуты. Ну ды Бог з ім.

Лазар Богша прыняў заказ. Ён ведаў: акрамя яго, нікому ён не пад сілу. Ва ўсёй Полацкай зямлі.

Летась скончылі храм Святога Спаса будаваць, а цяпер і крыж напрастольны яму будзе.

...Ён пільна ўглядаўся ў бліскучае тварэнне рук сваіх і каторы ўжо раз думаў пра дзівосы, якія адбываюцца з яго вырабамі. Богша не мог зразумець: ці нейкая чароўная сіла валодае ім у час работы, ці рэчы набываюць чарадзейства пасля акраплення іх святою вадою. Адкуль душа ў іх з'яўляецца?

Колькі разоў назіраў за асвяшчэннем. Не, не мяняюцца яны пасля. Ні бляску не набываюць болей, ні цеплыні. Але людзі падаюць перад імі, цалуюць і моляцца. І сам ён, майстра, цалуе і моліцца. Праўда, не без душэўнага разладу. Неяк дзіўна маліцца таму, што сам зрабіў. Гэткія думкі не раз прыходзілі ў апошні час. Відаць, стары стаў.

А былі ж іншыя часы.

Гадоў сорак назад трапіў у гэтыя мясціны малады залатар. Што тут рабілася! «Сё маё, а то маё жа!» — крычалі адзін аднаму маладыя князі. Усё ніяк не маглі падзяліць бацькавай спадчыны. Кожны трымаўся як стольны, кожны сабе ўсё цягнуў. Каб ён, Богша, падаўся тады да Менску ці Ізяслаўля,— невядома, як склаўся б яго лёс. Але Богша цвёрда памятаў словы майстра Канстанціна з Брачыславага дворышча: «Хто б ні клікаў цябе,— трымайся галоўнага горада і Сафеі святой. Там моц і Божая засцярога».

У Полцеск і прыйшоў. Тут рашыў свайго месца шукаць, бо ў Кіеве чаляdніку-залатару ў людзі не выбіцца.

Хай бы яны цяпер глянулі, тыя кіеўскія падбрэхічы, на ягоны крыж! Хто калі рабіў такое? Толькі золата ды срэбра, каменняў каштоўных ды жэмчугу на сто грыўняў ды яшчэ сорак, а дрэва добрага — без кошту.

Двунадзесяць лікаў святых утварыў з абодвух бакоў. Надпісам і ўзорам дзіўным упрыгожыў. Не ведалі такіх кветак ні кіеўскія, ні нават царградскія майстры. Тутэйшыя яны, Полацкай зямлі.

І што за зямля дзіўная! А людзі! Няхай княжацкая праўда князям застаецца, а ў чорнага люду яна свая. Ні мудрагелістасці ў жыцці тутэйшым, ні бяздумнага заморскага хараства. Шануюць людзі і продкаў сваіх, і багоў. Ці не таму стары Усяслаў збег з Кіева, што не прыняла яго прарочая душа кіеўскага ладу? Ходзяць чуткі, быццам князь гэты ўсё жыццё поначы на Валовае возера гайсаў, паганскаму капішчу з лесу даніну насіў. Нават у тыя часы, калі Сафею святую будаваў. А паганскія багі заступаліся за яго, на вялікі стол саджалі. Відаць, так і было, бо жыў ён болей за 70 летаў.

Але як жа так, калі Бог у нас адзіны?

— Ох, колькі ў жыцці разладдзя! — Сухой схуднелай рукой майстра пачухаў патыліцу.— Зямля каменная, неўрадлівая. Праўда, лясы багатыя. Яны і кормяць у галодныя гады, і адзяваюць. А голад — ледзь не праз год.

Богша прыгнуўся, штурхнуў рукамі дзверы. Ступіўшы за парог, паслізнуўся: «Цьфу ты! Ледзь у гразь не ўваліўся!» Драўляныя плахі дворышча даўно стапталіся і цьмяна бачыліся з барвова-чорнай жыжкі. А пакласці новых не хапала сіл.

Па начным небе, як здані, плылі аблокі, між якіх ярка зіхацелі зоркі.

Колькі летаў мінула і колькі яшчэ міне, а яны ўсё блішчаць. І нічога з імі не станецца, хоць кажуць, што зоркі, як і людзі, паміраюць. Але ён гэтага не бачыў. Мо і добра. Хай сабе блішчаць. Хто ведае, з якой яго жыццё закоціцца... І ўсё ж крыўдна: ён памрэ, а яны

застануцца. А што па ім застанецца? І ці ўспомніць хто Лазара Богшу? Мо запіша два словы пра яго, Лазараў крыж, той мніх, што ў келлі сафейскай летапіс вядзе. Шкада толькі, што кніжны пергамент ненадзейны: і згарэць можа, і пацукі могуць з'есці. Ефрасіння — тая застанецца, бо сам напісаў па золаце: «В лето 6669 покладает Офросинья честный крест...» І манастыр вось збудавалі...

Лазар вярнуўся ў хату. Сеў на лаву, перавярнуў крыж тыльным бокам. Падліў у свяцільнік алею. Потым узяў інструмент і ў самым нізе, пад абразом святога Панцеляймона, дробненькімі літарамі пачаў выціскаць: «Господи помози рабу своему Лазорю нареченому Богши сделавшему крест сии церкви святога Спаса и Офросиньи».

## ТРЫ КОЛЫ НА ГЛІНЕ



аніцай Яфімка прачнуўся ў прадчуванні шчаслівага дня. Дзіва што! Учора ўвечары бацька абяцаў паказаць сакрэты свайго майстэрства. А майстар ён, Бутрым, быў вядомы і знакаміты. З усяго Віцьбеска прыходзілі да яго па гліняны посуд. Нават князь час ад часу прысылаў сваіх слуг выбраць што-небудзь з гатовага посуду ці заказаць новы. Вядома, гліняныя вырабы прыгожыя, але ж і б'юцца хутка. Ніхто не ўмеў так рабіць посуд, як Яфімкаў бацька. Людзі казалі, быццам Бутрым і каваль Ладысь знаюцца з нячысцікам, бо надта многа пашаны ім у горадзе за працу і розум. Праўда,

нячысціка Яфімка ніколі не бачыў – ні ў хаце, ні ў майстэрні, а вось што да бацькі хадзілі віцьбічы раіцца па розных справах – праўда. Сёння ж бацька абяцаў і яго навучыць мудрасці ганчарнай.

З хаты хлопчык выбег на падворак.

– Ты глядзі, які жаваранак ранні! – сустрэў яго бацька на ганку майстэрні.

– Добрай раніцы, тата. Я ўжо гатовы. Калі ты мне ўсё пакажаш?

– Няўжо не забыўся?

– Вядома, не.

– Ну, раз абяцаў, дык пакажу і раскажу. Толькі кожная справа, сынок, не любіць паспешлівасці. Пойдзем спярша памыемся,– Бутрым паглядзеў на свае запэцканыя глінай рукі,– паснедаем, а потым і за работу возьмемся.

Хлопчык мігам праглынуў снеданне, вылез з-за стала. Маці толькі дзівілася, а бацька пасмейваўся. Яфімка хуценька апрануў старыя порткі, у якіх не шкада было і ў гліну залезці хоць па самыя вушы.

– Вось табе хвартушок да поўнага строю,– сказаў бацька, працягваючы сыну спецыяльна пашыты для гэтай працы хвартух.– Валасы твае кароткія – можна абысціся без каптура. Гатовы? Тады пайшлі.

І яны выйшлі з хаты.

– Двор свой ты добра ведаеш,– сказаў бацька.– Але давай яшчэ раз на ўсё паглядзім уважліва. Вось гэта – гліннік.

У двары стаяла некалькі гліннікаў. Яфімка ведаў, што кожнае лета бацька прывозіў і закладаў у іх гліну, якая потым ішла на вырабы.

– Гліннікі падобныя,– працягваў Бутрым,– але гліна ў іх розная. Гэта – з Заручаўя, гэта – з Задунаўя, а

гэта – Узгорская, дзе Віцьба цячэ пад замкам Вышнім. Кожная з іх мае свой смак і тлустасць. Паспытай.

Бацька дастаў з аднаго кораба жменю гліны і працягнуў Яфімку. Той панюхаў, але браць у рот не спяшаўся.

– Не бойся. Гліна – чыстая. Іначай не адрозніш па якасці, не выбераш патрэбную. А глытаць яе неабавязкова.

Хлопчык лізнуў гліну.

– А зараз гэту,– бацька працягнуў яшчэ адну жменю.– Розніцу адчуваеш?

– Так. Адна гладкая і саленаватая, другая – шурпатая і сухая.

– Сапраўды, яны розныя. У першай многа вільгаці, яна тлустая. Гаршчок з такой гліны, сохнучы, трэсне на сонцы і ў цяні. А з гэтай, шурпатай, трэсне, калі будуць абпальваць. Каб зрабіць добрую нарыхтоўку, розныя гатункі гліны трэба старанна змешваць, трымаць у глінніках усю зіму. Толькі па вясне, калі з'явіцца пах, гліна будзе гатовая. А зараз пайшлі ў майстэрню.

Уся майстэрня была застаўлена ганчарнымі вырабамі. Усюды, на паліцах і на падлозе, цешылі вока вялікія і маленькія гаршкі, місы, кубкі, карчагі, каганцы. Пасярод майстэрні стаяла круглая, не вельмі шырокая лава, з аднаго краю якой, у адтуліне, было замацавана кола.

– Вось гэта,– паказаў бацька на лаву з колам,– ганчарны круг. На ім робіцца ўсё: і гаршчок, і каганец. Сюды, усярэдзіну круга, кладзецца кавалак гліны. Гэта будзе донца гаршка. А потым паступова будуць выкругляцца і сценкі. Паспрабуй...

Яфімка ўзяў кавалак гліны, загадзя размяты бацькавымі рукамі, паклаў на круг і паступова, шнур за

шнурам, пачаў яе налепліваць. Потым Бутрым круціў круг, а сын абедзвюма рукамі надаваў гаршку форму.

– Тата, глядзі, які ў мяне атрымаўся гаршчок! Як твой!

– Добры гаршчок. Але яго яшчэ трэба зняць з круга.

Бацька ўзяў тонкую вяровачку і зрэзаў мяккую гліну пад донцам.

– Вось цяпер ён амаль гатовы. Толькі трэба высушыць і абпаліць.

– І ўсё?

– Усё. Але спачатку я табе адкрыю адзін сакрэт. Зірні на донца.

Яфімка асцярожна перавярнуў яшчэ мокры гаршчок дагары і ўбачыў на ім два колы, выціснутыя ў гліне.

– Адкуль гэта, тата? Я ж іх не рабіў.

– Калісьці мой бацька выразаў адно кола на ганчарным крузе. Яго адбітак значыўся на кожным зробленым ім гаршку. Потым, калі мой бацька – твой дзед – перадаў справу мне, я выразаў яшчэ адно кола. Гэта ўжо мой знак. Калі ты сядзеш за гэты круг, мусіш выразаць і сваё кола. І кожны ў горадзе будзе ведаць: гаршкі, на донцы якіх тры колы,– твае. Усё, што рабілася нашай сям'ёй, заўсёды было найлепшым. Ты павінен пра гэта памятаць, сынок, і перадаць сакрэт трох колаў сваім дзецям. Гэта знак нашага майстэрства.

* * *

Праз многія стагоддзі археолагі будуць углядацца ў знакі на ганчарных донцах і гадаць, што яны азначаюць: месца вырабу, сонца, прыналежнасць князю ці ганчарнаму цэху. А на самой справе тры колы, адно ў адным,– гэта спадчынныя знакі дзеда, бацькі і сына.



# ФРЭСКІ



обач з бацькам Андрэйка ідзе па вузкай і бруднай гарадской вулачцы. Вымашчаная бярвеннямі, заляпаная граззю вулачка цягнецца ўздоўж рамесніцкіх хатак і двухпавярховых сядзіб гараджан. Яна то звужаецца, то зноў пашыраецца. Крок — тоўстае бервяно, крок — тонкае. Некалькі — тоўстых, некалькі — тонкіх. А вось і зусім новыя, толькі-толькі абкораныя і пакладзеныя зверху, ад чаго пасярод вуліцы атрымалася невялікая прыступка.

Андрэйка ўважліва глядзіць пад ногі. І не таму, што яго цікавіць маставая і кожнае пад нагамі бервяно. Ён баіцца паслізнуцца ці спатыкнуцца аб аполак — бяды тады не абярэшся. Чаго-чаго, а бруду тут хапае...

Хлопчык апрануты ў новыя порткі і чыста вымытую кашулю. Бацька нават дазволіў абуць новыя, шытыя чырвоным узорам чарэўі.

Хіба ж далі б яму такі абутак сярод лета, каб не ішлі яны... Ах, куды яны ішлі! Ад радасці Андрэйку хочацца на ўсю вуліцу крычаць. Глядзіце: ён ужо дарослы! Будзе самастойна працаваць! Стане майстрам!

Ад такіх думак, быццам крылы, распраўляліся плечы, грудзі напаўняліся паветрам, выпіналіся наперад, а нос аж задзіраўся ўгору. Тады ён забываўся глядзець пад ногі, і некалькі разоў ледзь не чмякнуўся. Але ўтрымаўся. Гэта прымусіла зноў апусціць галаву.

Вось ужо сядзібы Вялікага пасада засталіся ззаду. Яны выйшлі з бацькам на бераг Палаты. Рака весела бегла па камянях, віравала над ямамі і хавалася ў шматлікіх выгінах. То ў адным, то ў другім месцы звісалі над кручамі дрэвы, карані якіх пілі ваду проста з ракі.

Па хісткім мастку, адным з тых, што так багата на Палаце, бацька з сынам перайшлі на другі бераг і там ступілі на шырокую сцяжыну, якая павяла іх праз лес.

Толькі зайшлі ў лес, магутныя сцены і высокія вежы Полацка разам з пяццю гмахамі Сафійскага сабора адразу схаваліся за густымі дрэвамі. Бацька неяк расказваў, што сабор быў пабудаваны гадоў сто назад знакамітым полацкім князем Усяславам Чарадзеем. Гэта — трэці па ліку сабор пасля Кіеўскай і Ноўгарадскай Сафіі.

...Сцежка вядзе ў Сяльцо. Зусім нядаўна па загаду цяперашняга князя і з дазволу полацкага епіскапа — уладыкі Ільі, там пачалі будаваць манастыр. Старэйшая дачка князя — Прадслава — пастрыглася ў манашкі і прыняла імя Ефрасінні. Гэта для яе будуюць палачане манастыр. Андрэйка, праўда, так і не зразумеў, што такое манастыр, хоць бацька і тлумачыў, што гэта такое месца, дзе асобна жывуць мужчыны і асобна — жанчыны, моляцца Богу, чытаюць, перапісваюць нейкія таямнічыя кніжкі.

Кніжкі Андрэйка бачыў, калі разам з бацькам хадзіў на свята ў Сафію. Толькі навошта вось дзеля гэтага

будаваць новы дом, ды яшчэ за горадам,– незразумела. Але калі так робяць дарослыя, значыць, трэба...

Нарэшце яны прыйшлі. На пляцоўцы між лесам і полем вiравала жыццё. Гэтулькі людзей Андрэйка ніколі не бачыў. Хіба што падчас вялікіх кірмашоў. Звычайна гэта было ўвесну, як толькі спадала ў Дзвіне вада. Тады на бераг ракі высыпала палова горада, каб паглядзець на заморскія тавары. Чаго толькі не прывозілі ў Полацк замежныя госці! Паважныя візантыйцы няспешна назіралі як згружалі дарагую парчу і шкло, мажныя барадатыя варагі ахапкамі зносілі мячы для вояў і бразготкі для жанчын. Мітусіліся і весела гаманілі кіяўляне. Яны звычайна прывозілі тавар для простага люду: шкляныя бранзалеткі, шыферныя оўруцкія праслачкі для верацён і іншую драбязу. Тады на беразе было весела, святочна, а тут...

Строгія твары, стрыманая гаворка. Высокім гмахам узвышалася царква. Яна яшчэ напалову была ў рыштаваннях. Крытая свінцом макаўка рассыпáла вакол сябе зіхатлівыя промні сонечных зайчыкаў. Крыху далей яшчэ адна царква, ніжэйшая, быццам прыціснутая да зямлі. Відаць, што не першы год стаіць, бо месцамі пашарпаная.

Людскі паток віраваў каля новай, як казаў бацька, Спаскай царквы. Ды яе туліліся драўляныя прыбудовы – манастырскія келлі. Навокал стукалі сякеры цесляў, а побач, у спецыяльна адведзеным месцы, муляры мясілі вапну, рабілі раствор – цамянку і рыхтавалі тонкую пляскатую цэглу – плінфу.

Ідучы паўз пляцоўку, на якой сохла на сонцы сырая плінфа, Андрэйка ўбачыў вялізнага шэрага ката. Ён схаваўся за кучаю будаўнічага друзу і цікаваў за вераб'-

ямі, якія скакалі па цэгле, пакідаючы на ёй адбіткі сваіх маленькіх тонкіх лапак. Вось адзін верабейка неасцярожна наблізіўся да ката. Маланкавы скачок – і шэры разбойнік прымусіў усю чародку падняцца ў паветра. Кату не пашанцавала. Толькі на плінфах побач з маленькімі птушынымі трохкутнічкамі засталіся глыбокія, крыху размазаныя каціныя кіпцюры.

Бацька засмяяўся.

– Вось і кот прыклаў лапы да будоўлі,– сказаў ён.– Высахне цэгла і ляжа ў сцены царквы разам са слядамі няўдалага палявання.

Тым часам падышлі да худога, сярэдняга росту мужчыны з доўгай чорнай барадою. Рукі і кашуля яго былі так запэцканы фарбаю, што, каб не сур'ёзны пагляд незнаёмца, можна было б прыняць яго за вулічнага скамароха.

– Дзень добры, Лукаш,– павітаўся бацька.

– Добры.

– Вось, як і дамовіліся, прывёў сына...

Бацька шырокай далонню падштурхнуў Андрэйку наперад.

Хлопчык, не падымаючы галавы, уважліва разглядаў свае чарэўі.

– Ці возьмеш?

– Чаму ж – можна ўзяць. Спачатку вучнем, потым падмайстрам, а там, глядзіш, і сам пісаць лікі навучыцца не горш за мяне. Толькі ці ёсць у яго душы іскра?

– Ёсць, ёсць! – запэўніў бацька.– Колькі ўжо бяросты скрэмзаў сваімі малюнкамі! Я нават тое-сёе захапіў. Вось глянь!

Ён дастаў з-за пазухі некалькі скруткаў бяросты, на якіх вострай палачкай, падобнай на тыя, якімі пісалі

дарослыя, былі надрапаны Андрэйкавы малюнкі. На адным – смешныя, нязграбныя чалавечкі з вялікімі галовамі і танюткімі ножкамі. Побач, на доўгіх вяроўках, матлялі хвастамі два сабакі. Відаць, ім было сумна, і сабакі брахалі на месяц, які таксама быў надрапаны ў верхнім куточку бяросты.

На другім малюнку хлопчык намаляваў маці, тату і сябе. У маці былі доўгія падвязаныя валасы, бацька трымаў у руцэ малаток – ён быў каваль, а сам Андрэйка стаяў побач і ўсміхаўся на ўвесь рот.

– Ну, браце,– здзівіўся Лукаш,– цябе не ў вучні, а ў майстры адразу можна браць,– і, цёпла ўсміхнуўшыся, спытаў: – Як жа зваць цябе, майстра?

– Андрэй,– глуха прабубніў пад нос хлопчык.

– То вазьму цябе, Андрэй, усіх мудрэй, усіх хітрэй. Пажывём, паглядзім, што з цябе атрымаецца. А пакуль будзеш фарбы расціраць ды розуму набірацца.

На гэтым мужчыны развіталіся, і Андрэйка застаўся з Лукашом.

– Ты, дружа, не губляйся,– пачуў ён голас майстра, калі бацькава постаць знікла на лясной сцяжыне.– Такіх, як ты, тут многа – не засумуеш. І работы хопіць. Хадзем, пакажу, што рабіць маеш.

І яны пайшлі да царквы, што стаяла ў рыштаваннях. Каля самага ўвахода нечакана спыніліся.

З вузкага праёма царкоўнай брамы насустрач выйшла жанчына; з галавы да пят апранутая ва ўсё чорнае. У вочы кінуўся надзвычай белы, з лёгкім, ледзь прыкметным румянцам твар. Яна была зусім маладая, маладзей за Андрэйкаву маці.

Жанчына паглядзела на хлопчыка, потым на Лукаша. Шырока пасаджаныя вялікія блакітныя вочы

вабілі незвычайнай сілаю. Глыбокі, пранізлівы позірк прыгожых вачэй апаліў, працяў Андрэйку наскрозь, прымусіў схіліць галаву. Тое ж адбылося і з Лукашом. Па постаці, па гэтых таямніча-загадкавых вачах хлопчык зразумеў, што перад ім сама Ефрасіння – князёўна Прадслава, для якой і будуецца гэты манастыр.

З хвіліну стаялі моўчкі. Нарэшце пачуўся ціхі, крыху ўсхваляваны, але цвёрды голас:

– Я бачыла тваю работу, майстра... Ці не занадта дазваляеш сабе?

Лукаш ніжэй апусціў галаву.

– Я ўсяго толькі грэшная манахіня,– працягвала яна,– смяротны чалавек, які нарадзіўся і памрэ. Ты ж павінен пісаць лікі святых – тых, хто быў і вечна будзе. Ты мяне разумееш?

– Разумею.

– Тады перапішы лікі нанава...

– Не.

– Чаму?

Нарэшце Лукаш падняў галаву і зірнуў на Ефрасінню. Позіркі іх сутрэліся. Ён маўчаў. Потым ледзь чутна вымавіў:

– А ты не разумееш, Прадслава?

Словы гэтыя быццам апяклі яе, штурханулі ў грудзі. Твар ледзь заружавеўся, але выраз яго не змяніўся. У вачах успыхнулі і адразу згаслі кволыя агеньчыкі. На хвіліну здалося, што і яна, гэтая строгая манахіня, зараз апусціць вочы.

– Лукаш,– у голасе ігуменні пачулася цеплыня.– Лукаш, ты ж ведаеш: няма больш князёўны і няма больш Прадславы. Гэта не вернецца, як і не вернуцца

нашы гульні на бацькавым дворышчы... Забудзь! Так трэба. Ты чуеш мяне?

— Чую.

— Перапішы лікі...

— Не буду.

— Тады... я магу загадаць табе, але я прашу: не рабі так болей.

— Добра.

І яны разышліся.

Пераступіўшы ганак царквы, майстра ўспомніў пра Андрэйку. Той ішоў услед і ледзь не таркануўся яму ў спіну, калі Лукаш нечакана спыніўся.

— Хадзем сюды, не хвалюйся,— апошняе сказаў не столькі хлопцу, колькі сабе самому.

Зніклі вулічная гамана, галасы людзей. Уласныя крокі рэхам луналі пад столлю. Праз нейкі час вочы Андрэйкі звыкліся з цемрай, і ён са здзіўленнем заўважыў, што і ўнутры царква ў рыштаваннях. Яны ўзнімаліся да самага верху, але канца не было відно. Здавалася, стаіш пад бязмежнай прасторай начнога неба, на якім ніводнай зорачкі.

У некалькіх месцах на драўляных бэльках свяціліся агеньчыкі — гарэлі свечкі. Каля іх у розных паставах сядзелі людзі. Яны распісвалі сцены па свежай тынкоўцы.

— Вось глядзі, Андрэйка, калі-небудзь і ты гэтак будзеш пісаць. Толькі навучыцца гэтаму не проста, як, скажам, шыць чарэўі, ляпіць гаршкі ці каваць, як робіць твой бацька. Можна ўсё жыццё расціраць фарбы для тых, хто піша лікі. Сапраўдным майстрам трэба нарадзіцца...

У некалькіх месцах праз вокны прабіваліся яркія промні святла. Круглымі каляровымі плямамі яны па-

далі на сцены, зіхацелі, пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі.

Андрэйка наблізіўся да адной сцяны, каб разгледзець яшчэ не прасохлыя фрэскі, і — сумеўся. Адтуль на яго глядзела маладая жанчына. Белы, з лёгкім румянцам авальны твар, апраўлены ў манаскі клабук, трошкі завостраны падбародак, шырока пасаджаныя блакітныя вочы. Вочы Ефрасінні-Прадславы... Яны пранізліва, з глыбокім сумам глядзелі на хлопчыка, быццам пра нешта пыталі.

Андрэйка разгубіўся. З супрацьлеглай сцяны на яго зноў пазіралі тыя ж вочы. Але выраз іх ужо змяніўся. Не было таго суму і ўнутранага сузірання. Яны свяціліся надзеяй, узнёсласцю і чысцінёй.

Такога дзіва хлопчык дагэтуль не бачыў. Усхваляваны, ён зірнуў на Лукаша, і раптам у яго душы нешта абарвалася. Гэта «нешта» ніяк не клалася на словы. Яно трымцела, штурхала малечае сэрца, ірвалася вонкі. Андрэйку хацелася закрычаць, але не было сілы. І ён заплакаў. Дробныя пякучыя слёзы пакаціліся па твары...

Дзве вузкія далоні з тонкімі пальцамі мякка леглі на яго плечы.

— Ну што ты! Не варта... Бачу, з цябе атрымаецца сапраўдны майстра.— І ціха дадаў: — Можа, яна і мае рацыю: нічога не было... А тое, што было,— трэба забыць. Вось толькі вочы...





## ЧАРАВІЧКІ ДЛЯ ЯНЫ

адышоў цёплы сонечны жнівень – самы любімы месяц года ўсіх жыхароў Менска і яго наваколля. З палёў і агародаў збіралі багатыя ўраджаі, а рамеснікі рыхтавалі шматлікія вырабы для традыцыйнага жнівеньскага кірмашу. Усе чакалі, калі па Бярэзіне і Свіслачы пойдуць у горад заморскія гандлёвыя караваны. Тады і пачнецца свята.

Вось і ў вёсачку, якая мясцілася паміж пагоркаў бліз Лагожаска, дайшла вестка, што пачалі збірацца першыя гандляры. І сяляне, якія мелі нейкія набыткі, заспяшаліся ў дарогу.

Падрыхтаваўся і Няжыла. На воз паклаў мех зерня ды пянькі некалькі жмутоў, каб у горадзе выменяць іх на новае рала, добры сталёвы нож, а калі пашанцуе, то і абутак набыць для сям'і.

Пасля нядоўгіх угавораў ён пагадзіўся ўзяць з сабою і дачку. У свае сем гадоў Янучка яшчэ ні разу не была ў горадзе, а таму з нецярпеннем чакала свайго першага падарожжа.

У нядзелю, пасля другіх пеўняў, невялікі вясковы караван, гружаны таварамі, выправіўся ў дарогу. Густы белы туман яшчэ клубіўся над зямлёю, калі падарожнікі наблізіліся да Менска — магутнай сталіцы княства. Вітаючы ўзыход сонца, весела зашчабяталі птушкі, і начная прахалода разам з туманам паступова сплыла ўдалячынь.

Горад адкрыўся з высокай гары. У сутоцы вялікай Свіслачы і маленькай Нямігі на насыпаных валах узвышаліся высокія драўляныя сцены гарадскога дзядзінца. Ён быў падобны на плецены кошык, у які нассыпалі грыбоў, суніц і чарніц. За драўлянымі сценамі горада тырчалі дахі дамоў, між якімі сноўдалі людзі. Дамы былі розныя: высокія і нізкія, як і людзі, апранутыя ў пярэстыя вопраткі.

— Зірніце,— сказаў сяльчанам праваднік,— вунь і купецкія ладдзі...

Сапраўды, каля драўляных масткоў прыстані стаялі шырокія, з пляскатымі днішчамі караблі. Іх ветразі былі скручаныя, і ўвішныя людзі зносілі на бераг вялікія, перавязаныя вяроўкамі цюкі.

Праз нейкі час вясковы караван наблізіўся да гарадской брамы. Што тут рабілася! Якая стаяла гамана! Яначка ніколі не бачыла столькі людзей. Гандаль ішоў паўсюдна: на прыстані, каля брамы, на цэнтральнай плошчы Менска. Расставілі свае вазы і сяльчане ўздоўж невялікай бруістай Нямігі, якая працякала непадалёк ад брамы. Тут было ўсё, што давала вясковая гаспадарка: зерне, пянька, лён, салёнае сала, вэнджанае мяса. Асобна ў дзежках, на разасланых ручніках, прапаноўвалі сваю здабычу бортнікі.

Спыніў свой воз і Няжыла.

— Тата, а калі мы пойдзем у горад? — спытала дзяўчынка.

— Як толькі ўсё прададзім,— адказаў бацька.

Ім пашанцавала: стаяць давялося нядоўга. Да воза падышоў тоўсты барадаты дзядзька, апрануты ў даўгаполы аксамітавы жупан, паверх якога быў накінуты кунтуш з разрэзанымі рукавамі. Ён запусціў руку ў мех з пшаніцаю, памацаў яе, паспрабаваў на разрыў пяньку. Згодна кіўнуў галавою.

Чалавек, які суправаджаў барадатага, сказаў:

— Пан Эрхард хоча набыць усё разам. Колькі?

Крыху патаргаваўшыся, барадаты дастаў з кашалька пяць сярэбраных манет і аддаў іх бацьку. І адразу да воза падскочыла некалькі чалавек, вельмі падобных на тых, што завіхаліся на прыстані. Яны ўзвалілі тавар на плечы і пацягнулі яго ў бок ладдзей.

— Ну вось,— сказаў бацька,— зараз і мы можам ісці.

І яны накіраваліся ў горад. Мінуўшы вялікую браму, абапал якой стаялі вартавыя, Няжыла і Яна апынуліся на галоўнай вуліцы Менска. Бацька сказаў, што называецца яна Вялікая, бо самая шырокая і доўгая і вядзе да плошчы і храма.

Уздоўж вуліцы жылі рамеснікі. У гэты дзень яны выставілі свае тавары проста на вуліцу. Тут прадаваліся гліняныя гаршкі, зробленыя на такарным станку драўляныя місы, кавальскія вырабы. Было шмат упрыгожанняў са шкла: пярсцёнкі, пацеркі, бранзалеты, прывескі, а ў адным месцы майстар на вачах людзей рабіў з ружовага каменя-сланцу праселкі для верацён і тут жа іх прадаваў.

Калі падыходзілі да плошчы, заўважылі латок шаўца. Гаспадар сядзеў на прызбе і, паклаўшы сабе на калені кавалак скуры, нешта шыў. Падышлі бліжэй.

— Тата, паглядзі, як прыгожа! — сказала Яна.

Побач з шаўцом на драўляным вулічным насціле стаяў розны абутак: мужчынскія боты з высокімі халявамі, ладныя жаночыя паўбоцікі, скураныя лапціпоршні, чаравічкі з нізкімі борцікамі. Сярод апошніх адразу кінуліся ў вочы чаравічкі з рознакаляровым вышываным арнаментам. Колер нітаў быў прыгожы і яркі: зялёны, як трава, блакітны, як неба, чырванажоўты, як сонейка. І арнамент быў адмысловы: у выглядзе сэрца-аблачынкі, палоскамі, трохкутнікамі, завітушкамі, як бруістая крыніца.

— Падабаюцца? — спытаў Няжыла.

— Вельмі,— адказала дзяўчынка.

— Колькі каштуюць? — звярнуўся бацька да майстра.

— Манету,— адказаў той.

— Дорага, Янaчка. Нам можа не хапіць на рала, нож і боты для мамы.

— Яны такія прыгожыя...

— Гаспадар, ці не аддасі танней?

— Не магу. Такія чаравічкі патрабуюць вялікай працы. Паглядзі сам: скуру трэба набыць, выразаць выкрайку, па скуры надрапаць арнамент, накалоць па ім дзіркі, потым вышыць, паднарад зрабіць, каб ніты не церліся, потым усё сшыць і на правіле форму надаць.— Крыху памаўчаўшы, сказаў: — У мяне, праўда, ёсць адны, крыху не дароблeныя. Калі ў тваёй дачкі... Дарэчы, як цябе завуць? — звярнуўся ён да дзяўчынкі.

— Я́на.

— Дык вось, калі ў Яначкі працавітыя рукі, яна і сама магла б іх дарабіць. А я тады вазьму палову кошту. Згодны? — І ён дастаў з палатнянага меха невялікія ладныя чаравічкі.

На першы погляд, яны былі звычайныя, але калі прыглядзецца, то можна было заўважыць, што галоўкі чаравічкаў і борцікі былі скрозь на дзірачках.

— Вось тут,— майстар паказаў на чаравічкі,— я ўжо пазначыў арнамент, зрабіў дзірачкі. Засталося толькі па іх вышыць. Зможаш сама? — і ён хітравата паглядзеў на Яну.

— Змагу, змагу! — узрадавалася дзяўчынка і пацягнула бацьку за руку.— Я сапраўды ўсё зраблю сама! Давай купім, тата!

— Ну, калі сама,— Няжыла пачухаў патыліцу, запусціў руку ў кашылёк.— Чаму б і не.— Ён дастаў манету і працягнуў яе майстру.

Той спрытным рухам паклаў манету на калоду, дастаў вялікі нож і рассек манету напалам. Адну палавінку забраў сабе, другую аддаў бацьку.

Дадому Яна вярталася шчаслівая. Усё ўдала прадалі. Рала, нож і боты маме таксама купілі. Але найбольш ёй падабаліся чаравічкі. Раз-пораз, едучы на возе, яна даставала іх і ўважліва ўглядалася ў праколатыя дзірачкі. Яны былі і квадратныя, і круглыя ў залежнасці ад таго, якім шылам каloліся. А калі Яна адсоўвала чаравічкі на адлегласць выцягнутай рукі, то можна было заўважыць і арнамент. На самым відным месцы, галоўках чаравічкаў, праглядалася вялікае сэрцайка, востры канец якога быў скіраваны ў бок наска. Абапал сэрцайка, уздоўж яго бакоў, спускаліся завіткі. У цэнтры выява нагадвала крыж, унізе якога адыходзілі два пялёсткі, а ўверсе праглядаўся невялікі кружок. Па баках і борціках чаравічкаў таксама былі наколатыя завіткі і падвоеныя палоскі. Скура чаравічкаў была мяккая, гладкая, а ўнутраная бархотка так і лашчыла пальцы.

Калі прыехалі дадому, Яна адразу пабегла да мамы паказаць абноўку. Тая ўсміхнулася і сур'ёзна сказала, што гэтак вышываць ёй ніколі не даводзілася, але паабяцала знайсці ніты і паказаць, як ладзіць іх да шчацінкі, каб можна было прасоўваць у дзірачкі.

Праца аказалася не з лёгкіх. Вышываць можна было па дзірачках — нітай назад альбо нітай наперад — «гусём». Па-рознаму атрымліваўся радок. Ніты мама падабрала прыгожыя. Па колеру яны былі падобны на тыя, што дзяўчынка бачыла ў Менску.

Цэлы месяц у вольны час, калі не трэба было дапамагаць бацькам па гаспадарцы, Яначка з дапамогай мамы вышывала чаравічкі. І хоць праца рухалася павольна, з кожным днём чаравічкі рабіліся ўсё прыгажэйшыя і прыгажэйшыя. Больш за ўсё дзяўчынцы падабалася вялікае сэрцайка, якое яна вышывала чырвонымі нітамі. Яно было яркае, быццам свяцілася ўсімі сваімі завіткамі. Крыжык усярэдзіне нагадваў той, што насіў на грудзях бацька. Няжыла казаў, што крыжык — гэта знак магутнага Бога і Сына Яго, які прыходзіў у свет і пакутаваў за грахі людскія. І калі гэты крыжык на чаравічках, то азначае, што Сын Божы будзе ахоўваць і яе, Яначку.

Нарэшце вышыўка была скончана. Бацька дапамог прышыць паднарад і надаць абутку форму. У чаравічках можна было хадзіць. Яна і красавалася ў іх да пачатку кастрычніка, ледзь не спаць з імі клалася. Але пачаліся дажджы, і чаравічкі давялося памяняць на простыя скураныя пасталы.

Мінулі зіма, вясна. Надышло спякотнае лета. Як ні шкадавала Яна чаравічкаў, але яны, мяккія і зручныя, пакрысе пачалі праціраццa. Спачатку яшчэ можна было

рамантаваць, і бацька знізу, да падэшвы, падшыў па кавалку скуры. Але на правым чаравічку зверху ўтварылася вялікая дзірка. Яна сапсавала арнамент, і зашыць яе не было як.

— Не журыся, дачушка,— сказаў бацька,— у жніўні зноў паедзем у Менск, знойдзем таго майстра. Можа, ён чым дапаможа.

А ў ліпені ў вёску прыйшла сумная вестка: на Менск напала вялікае войска кіеўскага князя і многа шкоды нарабіла. Горад быццам бы і адбіўся ад ворага, але вельмі пацярпеў. Шмат было забіта людзей, разбурана і спалена дамоў. Але кірмаш павінен быў адбыцца.

Як і год назад, сяльчане, сабраўшы свае тавары, выправіліся ў дарогу. Паехаў і Няжыла з дачкою. Па дарозе бачылі спаленыя вёскі, а калі пад'ехалі да Менска, то заўважылі, што сцены яго моцна пашкоджаныя, а брама месцамі абпаленая. Тым не менш зноў на прыстані стаялі людзі, а перад горадам і на яго плошчах гандляры раскладвалі свае тавары.

— Ты ўжо вялікая,— сказаў Яне бацька,— пакуль я буду гандляваць, ідзі пашукай таго майстра. Пакажы яму сваю бяду.

І дзяўчынка адна пайшла ў горад. Праз абпаленую браму яна выйшла на знаёмую вуліцу — Вялікую. Каб не папялішчы, на месцы якіх нічога яшчэ не паспелі адбудаваць, усё тут было так, як і раней. Праўда, гандляроў-рамеснікаў было меней.

Нарэшце Яна дайшла да знаёмага дома, на прызбе якога калісьці быў раскладзены тавар шаўца. Зараз тут нікога не было. Дзяўчынка пагрукала ў вароты — раз, другі. Ніхто не адгукнуўся.

— Каго шукаеш, Божае дзіця? — побач спыніўся высокі хударлявы мужчына, апрануты ў доўгае, ледзь не да пят, чорнае адзенне. На галаве ў яго была чорная шапачка з вострым верхам.

— Тут летась мы з бацькам набылі чаравічкі. Я сама іх вышывала... А зараз вось...— Я́на паказала незнаёмцу падраны чаравічак.

— Так, так, пазнаю Мікулаву работу. Гэткі арнамент толькі ён рабіў. Няма яго болей з намі...

— Памёр? — разгубілася Яна.

— Загінуў. Калі на горад напалі ворагі, ён разам з іншымі менчукамі пайшоў на абарону. Вунь там, каля брамы на забаролах, і працяла яго варожая страла. Мір праху яго. Няхай Бог даруе яму грахі.

— Мікула...— На вачах дзяўчынкі заблішчалі слёзы.— Я ўвесь год успаміная яго, калі шыла. Што ж мне зараз рабіць? — глянула яна на чаравічкі.

— Табе яго шкада?

— Шкада. І чаравічкаў таксама. Такія былі прыгожыя.

— Можна я пагляджу?

— Калі ласка,— і Яна працягнула яму абодва чаравічкі.

Чалавек паглядзеў адзін, потым другі.

— А ты ведаеш, што азначае гэты арнамент? — спытаў ён у дзяўчынкі.

— Не, не ведаю. Толькі крыжык гэты падобны на той, што носіць на грудзях бацька.

— Гэты крыжык не просты, як і сэрцайка. Вось глядзі: вялікае сэрцайка — Бог Усёмагутны, які клапоціцца пра ўсё на зямлі. Яно расцвітае, быццам вялікая кветка, бо дорыць кожнаму любоў. А ўсярэдзіне, з пялёсткаў,— Крыж. Гэта — Сын Яго, Хрыстос. Свайго

адзінага Сына Бог паслаў на зямлю, каб людзі сталі дабрэйшымі, лепшымі, каб любілі адзін аднаго. Але здарылася так, што людзі не пазналі Сына Божага і забілі яго. Смерць яго была пакутнаю – на Крыжы. Крыж той яны паставілі на высокай гары — Галгофе. А вось бачыш, унізе пад Крыжам, на гэтым уцалелым чаравічку, ёсць кружочак?

— Так, я яго сама вышывала,— адказала Яначка.

— Гэты кружок азначае першага чалавека на зямлі, якога стварыў Бог. Яго звалі Адам, і ён быў пахаваны якраз у гэтай гары – Галгофе, дзе паставілі Крыж і забілі Хрыста. Вось Мікула ўсю гэту вялікую гісторыю і паказаў на тваіх чаравічках. Добрыя былі чаравічкі.

— І ніхто мне не адрамантуе іх?

— Чаму не? У горадзе яшчэ ёсць шаўцы. Спытай вунь там, праз некалькі хат.

Чалавек у чорным адзенні аддаў Яне чаравічкі і пайшоў сваёй дарогай.

Праз некалькі хат Яна сапраўды знайшла шаўца. Той паабяцаў чаравічкі адрамантаваць, але папрасіў крыху пачакаць ці прыйсці пазней. Пакінуўшы майстру свой абутак, дзяўчынка пайшла далей па Вялікай вуліцы, туды, дзе ўдалечыні падымаўся гмах царквы. Летась яго не было. Але бацька расказваў, што ў Менску будуецца першы храм, месца, дзе людзі гавораць з Богам. Гэта быў самы вялікі і высокі будынак у горадзе. Ён быў складзены з цэглы і абапіраўся на прамавугольныя цесаныя камяні. Формы быў адмысловай, а ўгары, над самым дахам, узвышаўся барабан з падобным на цыбуліну верхам і крыжам.

Дзверы былі адчынены, і Яна зайшла туды. У храме быў прыцемак, адчувалася прахалода. Людзей амаль

не было, патрэсквалі свечкі ды гарэлі лампадкі. Усё, што дзяўчынка ўбачыла, было незвычайным. Такое дзіва яна бачыла ўпершыню. Асабліва яе ўразілі лікі святых. З вялікімі вачамі і сцятымі вуснамі, яны ўважліва пазіралі на яе з усіх бакоў. Не адразу яна заўважыла і знаёмую постаць у чорным адзенні. Чалавек стаяў да яе спінаю і нешта ўслых чытаў. Раптам ён азірнуўся, і дзяўчынка толькі тады пазнала свайго выпадковага знаёмага.

— А, гэта зноў ты! Адрамантавалі твае чаравічкі? — спытаў ён.

— Пакуль не, але майстар абяцаў.

— Ты ведаеш, куды прыйшла?

— Не.

— Гэта Дом Бога. Тут Ён жыве разам з намі, як і ў кожным сэрцы, якое прымае Яго. Вунь паглядзі,— ён паказаў пад столь.— Гэта Бог Айцец. Ён вышэй за ўсіх. А тут,— паказаў на выяву перад сабою,— пазнаеш Крыж і на ім постаць? Гэта раскрыжаваны Сын Яго. А вунь там,— паказаў у другі бок,— на сцяне выява першага чалавека Адама і яго жонкі Евы.

— Усё як на чаравічках,— узрушана прашаптала Яна.

— Амаль што,— усміхнуўся чалавек у чорным.— Ты чытаць, пэўна, яшчэ не ўмееш? — спытаў ён.

— Не.

— Вось калі навучышся, то пра ўсё зможаш прачытаць у адной вялікай кнізе, якая называецца Біблія.

— А навошта свечкі гараць? — спыталася дзяўчынка.

— Зараз я пастаўлю свечкі і прашу ў Бога, каб Ён прыняў душы ўсіх тых, хто загінуў апошнім часам. Прашу ў Бога літасці да ўсіх нас, каб дараваў нам жыццё і хлеб наш надзённы.

— А мне можна свечку паставіць?

— Можна. Толькі за каго?

— За шаўца Мікулу. Хай Бог і яго душу прыме.

Я́на ўзяла свечку, запаліла яе і паставіла так, як гэта рабіў яе новы знаёмы. Пастаяла крыху і пайшла ў горад.

Новы майстар адрамантаваў чаравічкі. На адным ён па-простаму адрэзаў парваны насок і на яго месца прышыў новы кавалак скуры, але ўжо без арнаменту. Адрэзалася якраз тая частка, дзе ў канцы крыжа быў кружок — пахаваны Адам. Чаравічкі можна было зноў насіць, але былой прыгажосці яны ўжо не мелі. Яначка абула іх, прайшлася. Ёй здалося, што яна быццам кульгае на адну нагу. Яна зняла чаравічкі, абула старыя пасталы і пайшла ў бок дома Мікулы. Падышоўшы да дома, села на прызбу ў тым месцы, дзе калісьці яе сустрэў майстар, успомніла яго ўсмешлівы твар. Зараз ён бачыўся ёй больш светлым і добрым. Успомніла яго спрацаваныя мазолістыя рукі з моцнымі пальцамі і скураны пас на галаве, які трымаў доўгія валасы. Дзяўчынка зноў паглядзела на адрамантаваныя чаравічкі і падумала: «Даўно ўжо няма Адама, а зараз няма і Мікулы. Адно засталіся гэтыя чаравічкі». Яна апошні раз паглядзела на іх, прыгадала ўсё, што казаў незнаёмы ў доўгай чорнай вопратцы, і паставіла чаравічкі пад сцяну дома. Паднялася і пайшла...

* * *

Прайшло восем стагоддзяў. Вучоныя-археолагі праводзілі раскопкі на старажытным Мінскім замчышчы. Пад вялікім слоем зямлі, сярод драўлянай парахні, што засталася ад колішняга будынка, быў знойдзены

чаравічак. Насок яго быў адрэзаны. Па дзірачках можна было здагадацца пра наяўнасць колішняга арнаменту ў выглядзе сэрца, якое расцвітае, з крыжам усярэдзіне. Але часткі арнаменту на прышытым наску не было.

— Глядзіце! — усхвалявана ўсклікнуў адзін з рабочых.— Такі самы, але цэлы.

Яшчэ адзін чаравічак дасталі з зямлі, пачысцілі і памылі. І ўсе ўбачылі, што на канцы крыжа калісьці быў вышыты кружочак.

— Гэта не проста арнамент,— сказаў кіраўнік,— гэта — цэлая гісторыя. Яна ёсць у Бібліі і... на гэтым чаравічку.





## ЛАНЬ



онца яшчэ не ўзышло. Начны туман, чапляючыся за пушыстыя елкі, ціха спаўзаў на зямлю. Лес прытаіўся, заціх.

Прадчуванне незразумелай трывогі глыбока закралася ў душу лесніка. Ён выйшаў на ганак, прыслухаўся. Здалёк пачуўся ціхі, нарастаючы грукат капытоў. Тонкі слых без цяжкасці вызначыў: едуць двое. Дзіўна. У гэтых далёкіх глухіх мясцінах усё радзей з'яўляліся людзі. Стары даўно ўжо нікога не бачыў. Ён вартаваў княжацкі лес, а дакладней — жыў у ім. Людзі забыліся на старога, а ён забыўся на людзей. Жывучы сярод прыроды, птушак і звяроў, ён навучыўся разумець іх лепей, чым людзей. Без слоў. Ды і навошта словы, з кім гаварыць? Вясною ён бачыў, як плачуць бярозы, як ажывае лес, а ўвосень чуў, як жоўта-чырвонае лісце, ахутваючы зямлю, напявае ёй развітальную калыханку.

Ляснік быў яшчэ даволі бадзёры і моцны, хоць жыццё і набліжалася да скону. Аб чым ён думаў, перабіраючы вузлаватымі пальцамі сівую бараду? Пра

дзень надзённы, магчыма, апошні, ці пра свае пражытыя і перажытыя гады? Колькі іх было, ён не ведаў, ды і хто мог сказаць? Хіба што яснавяльможны пан, стары, нямоглы князь...

Князь... Нябачныя ніці ўспамінаў звязвалі гэтых людзей, а бездань – падзяляла. Розныя хадзілі здагадкі і чуткі, але дакладна ніхто нічога не ведаў. Жыццё перапляло іх лёсы, як бура пераплятае голле, як людскія ногі перамешваюць у слоту мокры снег.

Шмат вады сплыло з таго часу. Засталася толькі памяць, якая глыбока засела ў душы лесніка.

У гады далёкай маладосці ён быў простым селянінам. Жыў нялёгка, але шчасліва. Былі ў яго жонка, маленькі сын. Ясю ішоў трэці годзік. Тупат дзіцячых ножак, смех і нават плач малога запаўнялі хату радасным святлом. Ясь быў як сонейка, пры паглядзе на якое ў аднавяскоўцаў расцвіталі ўсмешкі. Бацька любіў сына пяшчотна, хоць і ставіўся да яго строга. Але больш за ўсіх любіў сваю жонку Алену. Высокая, стройная, з гордаю паставаю, яна нават замужам заставалася першай прыгажуняй. У яе вачах, як у блакітных азёрах, адлюстроўваліся далёкія мігатлівыя зоры, а доўгія русыя валасы можна было параўнаць хіба што з бязмежным жытнёвым полем ці роўнымі льнянымі радамі. Калі Алена заплятала касу, здавалася, што гэта – сноп спелых каласоў, каб не дзіўнае, амаль няўлоўнае іх попельнае адценне. Рухі яе былі павольныя, грацыёзныя. І людзі, калі бачылі яе, казалі: так плаваюць лебедзі на княжацкіх сажалках.

Але прыйшла бяда. Не ад Бога. Бядою і лёсам быў князь. Вяртаючыся з палявання, прыкмеціў ён Алену. І запала яна ў яго душу. А праз колькі дзён уварваліся

ў хату панскія служкі, сілаю забралі жонку і сына, а беспрытомнага гаспадара пакінулі ляжаць на падлозе.

У хуткім часе Алена знікла. Па вёсцы прайшоў слых: не вытрымала жыцця ў княжацкіх палацах, кінулася ўночы з высокай замкавай вежы, а маленькага Яся князь адправіў на чужыну.

Людзі мала што ведалі, а бачылі яшчэ меней.

Прайшлі гады. Душэўны боль старога прытупіўся, і пайшоў ён да князя прасіцца на службу. Так стаў леснікам. З таго часу і жыве ў лесе адзін, у струхлелай рубленай хаце.

...Тым часам тупат набліжаўся. На паляне з'явіліся вершнікі. Па ўсім было відаць, што гэта княжацкія служкі: у багатых, шытых золатам камізэльках, франтаватых ботах і зухавата заламаных шапках. Адпаведна вершнікам былі і коні: гарачыя, няўрымслівыя. Адзін з вершнікаў рэзка, на ўсім скаку спыніў каня перад самым ганкам.

— Гэй, стары, цябе кліча князь. Паспяшай!

На краі лесу ў акружэнні світы чакаў князь. Ён быў стары, нямоглы. Доўгія сівыя валасы прамымі пасмамі звісалі на плечы. Востры арліны нос і калючы погляд рабілі яго знешні выгляд страшным і непрыемным. У прадсвітальнай смузе князь быў падобны на пачвару. Даўно забыўшыся на весялосць і пацехі маладосці, ён раптам надумаў наладзіць паляванне. Апошняе. І ўспаміны маладосці ажывілі яго. Захацелася прыгадаць былыя дні, калі збіралася ўся знаць, калі віно лілося ракой, а сталы ўгіналіся ад ежы. Забітай дзічыны было так многа, што ўсю і забраць не маглі, пакідалі ў лесе.

...Не вымавіўшы ні слова, ляснік пайшоў у хату, узяў стрэльбу, перакінуў цераз плячо ягдташ і выйшаў. Хутка ён быў перад князем. Зняў шапку, пакланіўся.

Князь сядзеў на кані. Стараючыся не горбіцца, адной рукой упіраўся ў бок, а другой – няўпэўнена трымаў повад. Моўчкі, пільным позіркам агледзеў старога. Ляснік сваю справу ведаў: расставіць лоўчых, загоншчыкаў, падняць звера і гнаць яго на паляўнічых. А тыя будуць страляць. Страляць, пакуль не пераб'юць усё жывое,– такая воля князя.

І вось загоншчыкі расстаўлены, стрэльбы напагатове. Зграя паўгалодных сабак ірвецца з ланцугоў.

Раптам на імгненне ўсё сціхла. Нават сабакі. Падцяўшы хвасты і жаласна паскавытваючы, ціснуліся адзін да аднаго. Ад лёгкага подыху ветру закалыхаліся галіны, ледзь чутна зашапацела лісце. Туман асеў. Зараз ён быў падобны на кісейнае покрыва, якое агортвала ногі і травы. У чаканні світання зямля, здавалася, дыхала на поўныя грудзі, а неба пачало павольна адліваць срэбрам. Аднекуль знізу яго пазалацілі першыя сонечныя промні. Бледна-ружовыя, аранжавыя, чырвоныя, яны паступова разгараліся, узнімаючыся над паляваннем. Нарэшце з-за далягляду выкаціўся вялізны агністы шар. Пунсовыя, быццам патокі крыві, пырснулі ў твар паляўнічых яркія промні ўзыходзячага сонца.

Разгубленыя людзі спалохана азіраліся па баках, чакаючы загаду князя. Той зразумеў гэта і, прышпорыўшы каня, накіраваўся ў глыб лесу. Лясную цішыню парушылі першыя нязладжаныя стрэлы.

Пачаўся загон...

Ляснік, абапёршыся на стрэльбу, спакойна стаяў пад дрэвам на краі просекі. Ён чакаў, калі наблізіцца аблава і выганяць звера. За ім, раскінуўшыся паўкругам, стаяла ў лесе князева світа. Ляснік нікога не бачыў, але ведаў, што князь ад яго – бліжэй за ўсіх.

Аблава ўжо зусім блізка. Чуваць асобныя крыкі, часцей і мацней гучаць стрэлы. З невысокага маладняку выскакваюць зайцы. Апынуўшыся на просецы, яны спыняюцца, смешна і спалохана азіраюцца і імгненна знікаюць у кустах.

Ляснік чакаў дзічыны большай.

І вось пачуўся трэск: нехта ламіўся праз ельнік. Па дрыжачых яго верхавінах стары бачыў, як звер набліжаецца да яго. Ён няспешна ўзняў стрэльбу, шчыльна прыціснуў да пляча, падрыхтаваўся.

Марудна цягнулася чаканне. Нарэшце галіны зварухнуліся і на просеку асцярожна выйшла лань. Яна была невысокая, стройная. Маленькія чорныя капыткі нават не мялі траву, а толькі страсалі з яе запозненую расу, якая блішчала на сонцы, адліваючы ўсімі колерамі вясёлкі. Лань была прыгожая, серабрыста-шэрага колеру, з маленькімі белымі плямкамі на спіне і вялікай плямай на лбе. На грацыёзнай і стройнай шыі горда ўзвышалася галава. Лань прыслухалася. Гледзячы на яе, стары з трывогай заўважыў падабенства жывёлы з нечым даўно забытым, такім жа лагодным і пяшчотным...

Нечакана лань павярнула галаву. Іх погляды сустрэліся. Уражаны стары здрыгануўся. Маланкай бліснула здагадка, і стрэльба пачала павольна апускацца долу.

У лані былі блакітныя вочы.

Шырока адкрытыя, яны спакойна і даверліва глядзелі на лесніка. Без страху, без дакору, без малення. Вочы пыталі... Як яны былі падобны на тыя, многа-многа гадоў назад... Не, не падобныя — тыя ж самыя!

Ляснік перавёў позірк крыху ўбок і зразумеў нямое пытанне. Побач з ланню, хістаючыся на тонкіх

ножках, стаяла аленяня. Зусім маленькае, кволае. Яно падалося да маці, прыціснулася, спалохана скасавурыўшы вочы на чалавека. Так спалохана прыціскаўся да Алены маленькі Ясік, калі з грукатам расчыніліся дзверы...

Пякучая хваля ўспамінаў нахлынула на старога. Так, гэта былі яны — Алена і яго сын.

Галіны самкнуліся, і стары зноў застаўся адзін. Ён усміхнуўся, зірнуў на сонца. Усміхнуўся і яму. А можа, самому сабе. Здавалася, і лес расцягнуўся ў добрай усмешцы доўгіх нітаў павуціння, махнатых галін елак, светлага лісця бяроз. І нават стары пень, шырока раскінуўшы лапы, усміхаўся бяззубым ротам. Быццам і не было палявання. Ласкава свяціла сонейка.

І раптам зусім побач раздаўся стрэл. Стары скалануўся. Умомант зляцела здранцвенне. Прадчуванне непапраўнай бяды напоўніла сэрца. З трывожным крыкам праляцела сарока. Куды? Ён азірнуўся. Глухая зялёная сцяна перагароджвала дарогу. Не раздумваючы, ён кінуўся ў зялёныя абдымкі лесу. Паспець! Толькі б паспець! Спыніць, выправіць тое, што не прадухіліў калісьці. Галіны наводмаш хвасталі па твары, цягнулі назад, блыталіся пад нагамі. Хутчэй, хутчэй! Чаму так цёмна? Дзе сонца?

Нарэшце яркае сонца спыніла яго на краі паляны.

На мяккім дыване палявых кветак ляжала лань. На белых рамонках — галава з белай плямкай на лбе. Яна замарылася. Пяшчотная, грацыёзная, прыціснулася да зямлі — такой цёплай. Але вочы... Чаму яны заплюшчаны?

На зямлю павольна сцякаў тонкі чырвоны струменьчык...

Над забітай ланню зноў сустрэліся два позіркі. Адзін – здзіўлены, наіўны, які нічога не разумеў. Позірк Яся... Куды ты глядзіш, Ясю, дзіцятка маё?

Пад разгалістым дубам, шырока расставіўшы ногі, стаяў князь. Яшчэ не развеяўся ў паветры парахавы дым, а князь з пагардлівай усмешкай зноў узводзіў стрэльбу.

Блакітныя вочы аленяняці спакойна глядзелі ў пустэчу дула.

Няспешна ляснік узняў стрэльбу, шчыльна прыціснуў яе да шчакі. У прарэзе прыцэлу на момант з'явілася постаць князя, і палец сам націснуў на курок.

Рэха пракацілася над лесам.

Стары падышоў да аленяняці, пяшчотна пагладзіў па галоўцы, прытуліў да сябе, і яны павольна накіраваліся ў глыб лесу. Адзін ішоў няўмела, хістаючыся на тонкіх ножках, другі – цяжка ступаючы, згінаючыся пад цяжарам пражытых гадоў.

Пачынаўся новы дзень...

З таго часу ніхто не бачыў лесніка. У старожку ён не вярнуўся. А на тым месцы, дзе ўпала лань, з'явіўся чысты ручай. Ён бег праз палі і лясы і паступова ператварыўся ў раку, якой людзі і далі назву – ЛАНЬ.

А яшчэ кажуць, як прыгрэе вясновае сонейка і сыдзе з ракі лёд, выходзіць на ўскрай лесу да абрыву прыгожы вялікі алень. Горда трымае ён каранаваную галаву і журботна глядзіць на раку.

Блакітная вада і блакітнае неба адбіваюцца ў яго блакітных вачах.

# ЗМЕСТ

## КАМЯНІЦЫ І ТАЯМНІЦЫ

*Абразкі*



## ЛІТАРЫ НА ЦЭГЛЕ

*Апавяданні*

**Тарасаў С.**

Т19 Фрэскі: Абразкі і апавяданні: Для сярэд. шк. узросту / Сяргей Тарасаў; Маст. М. М. Купава.— Мн.: Маст. літ., 2004.— 102 с.: іл.

ISBN 985-02-0699-3.

Кніга вядомага археолага і пісьменніка Сяргея Тарасава складаецца з апавяданняў і абразкоў, прысвечаных стражытнай гісторыі краіны — яе гарадам і замкам, а таксама нашым славутым землякам. У шэрагу твораў даўніна суседнічае з сучаснасцю.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ТАРАСАЎ** Сяргей Васільевіч

**ФРЭСКІ**

*Абразкі і апавяданні*

Рэдактар *У. М. Мазго*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *Т. С. Звяркові*
Стылістычны рэдактар *Л. А. Дзядзюля*

Падпісана да друку 28.04.04. Фармат $70x100^{1}/_{16}$. Папера мелаваная.
Гарнітура Пецярбург. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 8,45. Улік.-выд. арк. 5,44.
Тыраж 2000 экз. Заказ 215.

Выдавецкае рэспубліканскае
унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія № 02330/0056778 ад 17.02.2004.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку».
220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.